# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 25 (186), 12 ЛІПЕНЯ 1995 ГОДА. КОШТ 1000 РУБЛЁЎ



Фота Генадзя ЖЫНКОВА



## ВІЦЕБСК-ГОРАД «ЗОРНЫ»

**19 ліпеня ў Віцебску ўрачыста адкрыецца традыцыйны фестываль "Славянскі базар". У гэтым годзе ён упершыню праводзіцца як Міжнародны фестываль мастацтваў. Гледачы сустрэнуцца з зоркамі беларускай эстрады Уладзімірам Мулявіным і "Песнярамі", Анатолем Ярмоленкам і "Сябрамі", з Інай Афанасьевай, Лікай, Аляксандрам Саладухай і іншымі выканаўцамі. На фестываль запрошаны Надзея Бабкіна, Валеры Лявонцьеў, Маша Распуціна, Аляксандр Малінін, Алег Газманаў, група "Любэ" і шмат іншых гасцей. Акрамя традыцыйных конкурсаў маладых выканаўцаў і канцэртаў эстрадных зорак у рамках фестывалю будуць праведзены мастацкія выставы, паэтычныя чытанні, дзіцячае фальклорнае свята, міні-кінафестываль, кірмаш рамёстваў, свята кветак, фінал конкурсу прыгажосці "Міс славянка". Завершыцца фестываль 23 ліпеня.**

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# КОМПАС "КУЛЬТУРЫ"

- 28 чэрвеня калегія Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь пастанавіла надаць званне "народны самадзейны калектыў" жаночаму хору "Світанак" ПТВ № 90 г. Брэста, аркестру народных інструментаў выкладчыкаў Лідскай ДМШ, фальклорнаму гурту Погірскага сельскага клуба Дзятлаўскага раёна, хору ветэранаў вайны і працы Мірскага ГДК, хору ветэранаў вайны і працы "Ветэраны ў страі" аддзела культуры Дзятлаўскага райвыканкама, фальклорнаму ансамблю "Вечарынка" Ялізаўскай ДМШ Асіповіцкага раёна, ансамблю народнай песні "Надзея" Чэрыкаўскага РДК, хору ветэранаў вайны і працы Мсціслаўскага РДК, ансамблю народнай песні Акцябрскага СДК Лагойскага раёна, ансамблю народных інструментаў выкладчыкаў музычнага вучылішча г. Мінска. Званне "ўзорны самадзейны калектыў" нададзена аркестру баяністаў дзіцячай школы мастацтваў № 1 г. Оршы, духавому аркестру СШ № 2 г. Верхнядзвінска, аркестру народных інструментаў Лідскай музычнай школы, тэатру-студыі "Ветразь" СШ № 61 г. Гомеля, а таксама калектывам з Мінска: фальклорнаму тэатру "Пацешнік" дзіцячага эстэтычнага цэнтра інтэрцэнтра "Вела" Маскоўскага раёна, фальклорнаму ансамблю "Забава" СШ № 190, харэаграфічнаму ансамблю "Пралесачка" Цэнтра пазашкольнай працы Ленінскага раёна. Хор Камянецкага ГДК пазбаўлены звання "народны самадзейны калектыў" у сувязі з адсутнасцю мастацкага кіраўніка і вучэбна-творчай работы ў 1994-1995 гг.
- У чэрвені ў Гомелі, Магілёве і Мінску адбыліся пасяджэнні калегій упраўленняў культуры аблвыканкамаў. 21 чэрвеня ў Гомелі былі разгледжаны стыль і метады работы аддзела культуры Веткаўскага райвыканкама па кіраўніцтве ўстановамі культуры і падрыхтоўка да работы ў зімовы перыяд. 27 чэрвеня ў Мінску былі разгледжаны пытанні аб рабоце дзіцячых музычных школ Смалявіцкага раёна па эстэтычным выхаванні дзяцей і падлеткаў, аб стане фінансава-эканамічнай работы аддзела культуры Барысаўскага РВК, аб ходзе работы аддзелаў культуры рай (гар)выканкамаў па заключэнні ахоўных абавязацельстваў на помнікі архітэктуры і археалогіі. 30 чэрвеня ў Магілёве абмяркоўваўся стан работы з творчай моладдзю ў абласных тэатрах.
- 3-6 ліпеня ў Віцебску былі праведзены V Міжнародныя Шагалаўскія дні, якія арганізавалі Віцебскі гарадскі аддзел культуры і Літаратурны цэнтр Віцебскага аддзялення Беларускага фонду Сораса.
- 4 ліпеня ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі адбыўся вечар балета з удзелам вядучых артыстаў маскоўскага тэатра "Рэнесанс-балет" — лаўрэата Міжнароднага конкурсу артыстаў балета ў Люксембургу (1995 г., I прэмія — Залаты медаль) — Таццяны Берынавай і Дзяніса Гранастайскага. Гледачам была прапанавана прэм'ера аднаактовага балета "Кармэн-сюіта" (харэаграфія — А. Алонса, пастаноўка — Г. Таранда). У другім аддзяленні былі паказаны фрагменты з балетаў "Марная засцярога", "Шчаўкунок", "Дон-Кіхот", "Лебядзінае возера" і інш. 11 ліпеня адбыўся другі вечар з удзелам маскоўскіх зорак. У першым аддзяленні яны выканалі вядучыя партыі ў балеце "Штраўсіяна". Гэтыя вечары — своеасаблівая генеральная рэпетыцыя перад гастролямі артыстаў балета тэатра ў Іспанію, да якіх калектыў пад кіраўніцтвам галоўнага балетмайстра засл. арт. Расіі Н. Дзьячэнка зараз напружана рыхтуецца. Пачатак гастроляў мае адбыцца 15 ліпеня.
- 10 ліпеня Творчае маладзёжнае аб'яднанне "Крок" Беларускай тэлерадыёкампаніі запісала чарговы выпуск ток-шоу "Карамболь" з удзелам вядомых артыстаў бацькі і сына Яроменкаў. Гледачы ўбачаць перадачу сёлета ў жніўні.
- З 13 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі будзе экспанавацца выстава "Сучасны японскі плакат", якую падрыхтавала амбасада Японіі ў Рэспубліцы Беларусь.
- 17 ліпеня адбудзецца пасяджэнне Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО. Сярод пытанняў — падрыхтоўка да Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКО ў Парыжы.
- 17 ліпеня ў Маскве пачнецца XIX Маскоўскі міжнародны кінафестываль. Прыняць удзел у якасці гасцей запрошаны беларускія кінематаграфісты В. Тураў, В. Нікіфараў, В. Рыбараў, М. Пташук. У пазаконкурснай праграме фестывалю будзе паказана кінастужка "Кааператыў "Палітбюро" (рэж. М. Пташук). Своеасаблівасцю сёлетняга фестывалю, прысвечанага 100-годдзю кіно, будзе яго арыентаванасць на масавага гледача. Фільмы фестывалю пройдуць у большасці кінатэатраў Масквы.
- 18 ліпеня Музей гісторыі тэатра і музыкі ў памяшканні гасцёўні У. Галубка (вул. Старавіленская,14) у 16 гадзін адкрывае першую пастаянную экспазіцыю беларускіх музычных інструментаў.

# БАРБАРА РАДЗІВІЛ "НА ВОЛІ"

У 1550 годзе ліцвінка Барбара Радзівіл каранавалася на польскі пасад. І вось праз чатыры з паловай стагоддзя яна зноў нагадала аб сабе варшавянам. У каралеўскіх строях, кароне Барбара лёгка саскочыла з прыступкі шыкоўнага неаплана-Маз і зацокала тонкімі абцасікамі па бруку вуліц і пляцаў Старога места. Яе суправаджалі Жыгімонт Аўгуст II, каралева Бона, яе сакратар Монці, браты Барбары — Радзівіл Руды і Радзівіл Чорны, шэры кардынал... Гэта дзіўная, на першы погляд, працэсія несла з сабой каралеўскі трон, куфэркі, старадаўнія свяцільнікі... Часам яна спынялася, даставаліся з футаралаў фотаапараты, па чарзе садзіліся ў каралеўскі фатэль і фатаграфаваліся на ўспамін аб Варшаве, занатоўвалі найбольш цікавыя архітэктурныя помнікі, вулічных гандляроў, музыкаў, рамізнікаў на брычках і ахвотна пазіравалі, давалі інтэрв'ю і адказвалі на пытанні цікаўных варшавян.

Як вядома з гісторыі, каралева Бона негатыўна паставілася да шлюбу сына з Барбарай. Паводле аднайменнай драмы Р.Баравіковай, каралева-маці і каралева-нявестка ніколі не сустракаліся, а тут у гэты панядзелак 19 чэрвеня 1995 года яны абдымаліся, весела смяяліся, жартавалі. Прымірэнне, якога так прагнуў Жыгімонт і якога не дачакаўся, адбылося на вуліцах старой Варшавы па шляху ў каралеўскі палац, дзе неўзабаве павінен быў пачацца спектакль "Барбара Радзівіл" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна". Нас уразіла рэакцыя варшавян на наша з'яўленне ў гістарычных касцюмах. Не думаю, што гэта былі спецыялісты, гісторыкі... Яны падыходзілі да нас, цікавіліся — хто мы і адкуль, і тут жа беспамылкова па касцюмах вызначалі персанажаў драмы Р.Баравіковай. Аўтар сцэнічных строяў Наталля Сардарава можа ганарыцца сваёй працай. Публіка на першым спектаклі была сур'ёзная, стрыманая — кіраўнікі банкаў, фінансісты і прадстаўнікі дзелавых колаў. Глядзелі спектакль адпаведна свайму статусу — стрымана, засяроджана, а потым куды падзеўся іх сур'ёз і холад!

Пасля ўжо нам сказалі, што менавіта Барбара зрабіла немагчымае — дапамагла фундатару нашай паездкі "Прыёрбанку" падпісаць усе пагадненні і дамовы з польскім бокам.

Другі спектакль адбыўся ў Варшаўскім тэатры на Волі. Больш за палову гледачоў — беларусы, прыйшла амаль уся беларуская дыяспара, польскія акцёры, гісторыкі, журналісты... Чакаем ад нашага гіда Гені артыкулаў і рэцэнзій. Мяркуючы па рэакцыі залы, яны будуць някепскія. Лавілі кожнае слова, апладысменты пасля кожнай сцэны, асаблівы эмацыянальны ўздым на рэпліцы Боны, дзе вялася гаворка пра ўмацаванне палітычнай і эканамічнай незалежнасці Польшчы. У фінале авацыі, выгукі па-польску і па-беларуску: "Жыве Беларусь". Аднекуль павыцягвалі бел-чырвона-белыя сцягі. Апладысментаў і кветак столькі, колькі мы не бачылі і не чулі за ўсе паказы спектакля ў сябе дома ў Мінску. Паэт Аляксандр Баршчэўскі сказаў, што наша "Барбара" растапіла холад недаверу да беларускай версіі ўзыходжання на польскі прастол Барбары Радзівіл, адзначыў майстэрства паэтычнага слова аўтаркі п'есы, павагу да польскай кароны і дзяржавы, еднасць колераў на дзяржаўным польскм і занядбаным бел-чырвона-белым сцягах; маладосць, прыгажосць і натхненне трупы "Вольнай сцэны". Мастацкі кіраўнік тэатра на Волі Богдан Аўгустыняк прапанаваў замацаваць першае знаёмства больш працяглымі гастролямі "Вольнай сцэны" ў Варшаве зноў з той жа Барбарай Радзівіл і іншымі новымі спектаклямі. Мы не супраць, толькі ці знойдзецца дабрадзей кшталту "Прыёрбанка", які забяспечыў выдатным аўтобусам і ўзяў на сябе ўсе выдаткі...

**Іван ЧАРКАС,**
**загадчык літаратурнай часткі тэатра**

# З НАГОДЫ 3000-Й ГАДАВІНЫ



У Мінску завяршыла сваю працу выстава дзіцячых малюнкаў, прысвечаных старажытнаму Іерусаліму. Мерапрыемства, што адбылося ў памяшканні мінскага Палаца мастацтва, праходзіла ў рамках падрыхтоўкі да 3000-й гадавіны абвяшчэння царом Давідам Ерусаліма сталіцай яўрэйскай дзяржавы. А папярэднічаў выставе аб'яўлены летась пасольствам Ізраіля ў Беларусі конкурс на лепшы дзіцячы малюнак. Усяго аргкамітэту было даслана каля тысячы работ. Падвёўшы вынікі конкурсу "Дзеці Беларусі малююць Ерусалім", патрабавальнае журы вызначыла параможцаў. Іх творы будуць адпраўлены ў Ізраіль.

**Наш кар.**

*На здымку: "Залаты Ерусалім" — малюнак Дзімы Рудзя (13 гадоў).*

***ПРОСТЫЯ людзі тут, асабліва цяпер, пазбягаюць усялякіх сустрэч з звезджымі журналістамі з цэнтра. Хаця і тыя апошнім часам сталі гасцяваць у раёне ўсё радзей.***

***Прыцягнуць каго да размовы — ні ў якую, ну хіба толькі без дыктафона і назвы сапраўднага прозвішча. Людзі баяцца, асцерагаюцца. Каго? Не ўпэўнены, што самі яны дакладна ведаюць каго і чаго. Гэты страх жыве сам па сабе, незалежна ад тваёй волі. Ён нібы закладзены генетычна і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Гэта, што тычыцца "нізоў", а людзі так званых вышэйшых рангаў як і дзесяць, дваццаць гадоў таму ахвотна адрапартуюць табе аб здачы хлеба дзяржаве і аб ходзе корманарыхтоўчых работ у гаспадарцы ці яшчэ аб якіх дасягненнях. Так, як і дзесяць гадоў таму. У прыватнасці тут нічога не змянілася. Каб толькі не адно "але". Апошняе дзесяцігоддзе, з таго татальнага 86-га, жыхары раёна існуюць нібы ў іншым вымярэнні, адарваным ад таго, дзе знаходзімся мы — жыхары, так бы мовіць, "сэрца" краіны. Мо гэта падаецца толькі на першы погляд, чалавеку не тутэйшаму...***

***У першы дзень творчай камандзіроўкі па гэтай зямлі дырэктар Чамярыскай сярэдняй школы Мікола Чарнабай прасіў не згушчаць фарбы ў будучым газетным артыкуле. Людзі, маўляў, сталіся ад бессэнсоўнай і залішняй увагі нашага брата-журналіста.***

***Я паабяцаў і спадзяюся, што слова сваё стрымаў. Толькі адразу скажу: месца маёй нядаўняй камандзіроўкі — Брагіншчына. І гэтым, здаецца, усё будзе сказана...Але калі ўзгадваць паўднёвы рэгіён Беларусі — Брагінскі, Хойніцкі, Нараўлянскі раёны і не казаць пра чарнобыльскую катастрофу, значыцца ўвогуле ні пра што не казаць. Бо для мястэчкоўцаў жыццё падзялілася на тое, што было да красавіка 86-га, і тое, што сталася пасля.***

Для іх незаўважнай засталася гарбачоўская перабудова 85-га — яе значнасць неўзабаве засланіў цень чарнобыльскага рэактара. Людзі паціху пачалі прызвычайвацца да існавання ў новых умовах. Псіхалагічных умовах. І даруйце за зацяганы журналісцкі штамп, — з надзеяй глядзяць у будучыню. Хто яшчэ малады і пакуль не адчувае ўплыву радыяцыйнага фону на здароўе, па праву лічыць сябе аптымістам. Хаця б таму, што працягвае жыць на гэтай зямлі. Нягледзячы на тое, што цень Чарнобыля ва ўсім: у апусцелых вуліцах, парослых быллём прысядзібных участках, пакінутых гаспадарамі хатах з выбітымі шыбамі. Людзі прызвычаіліся бачыць штодня такія відовішчы, якія сталі неад'емным атрыбутам чарнобыльскай зоны, зоны радыяцыйнага кантролю.

КАЛІ вы законапаслухмяны грамадзянін і дабіраецеся да Брагіна на сваім аўто па цэнтральнай трасе, як гэта рабілі мы, ва ўсю моц эксплуатуючы рэдакцыйны "Масквіч", то вам не пазбегнуць знаёмства з паставымі міліцыянерамі, што і ўночы і ўдзень нясуць сваю пільную варту пры ўездзе ў горад. Яны адразу ўсім сваім відам пакажуць, што вы нежаданы госць і ў фотакартку дакументаў будуць углядацца так, быццам ваш твар прымільгаўся на абдзёртых стэндах "іх адшуквае..."

А мо, гэта толькі падаецца, бо тут на Брагіншчыне, калі моцна ва ўжытак увайшло слова "зона" з новым яго значэннем, у заезджага чалавека значна абвастраецца ўспрыманне рэчаіснасці, усяго наваколля. Што ж тычыцца міліцэйскага патруля, дык як паведаміў

# БЕЛАРУСКАЯ ДРАМАТУРГІЯ

Сярод біяграфічных выданняў, што падрыхтавала ў апошні час Нацыянальная бібліятэка Беларусі, звяртае на сябе ўвагу бібліяграфічны даведнік "Беларуская драматургія. 1966—1986", складзены вядомым у рэспубліцы бібліёграфам Н.В.Ватацы. Ён з'яўляецца працягам выдання "Беларуская савецкая драматургія. 1917—1965" (Мн., 1966). Кніга знаёміць з больш як 700 драматургічнымі творамі беларускіх пісьменнікаў, выдадзенымі ў перыяд 1966—1986гг., інфармуе пра тэатральныя і радыёпастаноўкі, кінафільмы, знятыя па гэтых творах, рэцэнзіі на іх.

За гэты адрэзак часу беларуская драматургія набыла немалыя здабыткі — значна актывізавалася, дала ўзоры змястоўных, жанрава разнастайных п'ес, у якіх спрабуе ўзняць надзённыя пытанні, асэнсаваць гістарычнае мінулае нашага народа.

У даведнік увайшлі не толькі творы, напісаныя пасля 1965 г., але і п'есы, створаныя раней, але надрукаваныя ў апошнія гады, якія ставіліся ў тэатрах або калі на іх з'явіліся водгукі ў друку ў азначаны перыяд. Складальнік адзначыў толькі пастаноўкі найбольш буйных прафесійных тэатраў, водгукі на якія былі змешчаны ва ўсесаюзным, рэспубліканскім і абласным друку. Рэцэнзіі, змешчаныя ў раённым друку, у большасці не ўлічаны.

Бібліяграфічны даведнік мае два раздзелы. Першы знаёміць чытачоў з творамі драматургаў, іх публікацыямі і пастаноўкамі, таксама з ацэнкаю твораў і спектакляў у друку. П'есы пададзены ў даведніку ў алфавіце аўтараў і назваў твораў. У другім раздзеле сабраны крытычныя матэрыялы па агульных пытаннях беларускай драматургіі.

Выданне забяспечана наступнымі дапаможнымі паказальнікамі: імянны, паказальнік назваў п'ес, прадметна-тэматычны, геаграфічны і паказальнік аднаактовых п'ес. Яны робяць кнігу зручнай у карыстанні.

Разлічаны дапаможнік на літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, тэатральных дзеячаў, выкладчыкаў роднай літаратуры, студэнтаў філалагічных факультэтаў, Беларускай акадэміі мастацтваў і Мінскага універсітэта культуры, работнікаў бібліятэк.

Выданне можна набыць у кніжным кіёску Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Даведкі атрымаць па тэлефоне: 27-23-11.

**Раіса СОБАЛЬ,**
**заг. сектара навукова-бібліяграфічнага аддзела**

## СІТУАЦЫЯ




адзін з брагінскіх чыноўнікаў, людзі ў форме зараз добрыя і не дужа лютуюць. Пакуль. Бо не сезон. Вось як пойдуць грыбы, ягады ды яблыкі, у Брагін пацягнуцца чарадой легкавыя і грузавыя аўтамабілі з усяго наваколля. Але ж і міліцыянеры людзі, іх дзеткі таксама есці просяць, і ў чужое становішча ўвайсці змогуць. Дый загадзя адзначаныя ў маршрутнай карце КПП аб'ехаць не складае вялікіх праблем. А таму, калі будзеце выбіраць на якімсьці, будзь то сталічным ці правінцыйным кірмашы дары прыроды для святочнага стала і ўбачыце, што ваш дазіметр зашкалівае, — не здзіўляйцеся. Затое будзеце ведаць, адкуль такое багацце. Але гэта так, між іншым, своеасаблівы лікбез... Заўсёды і ва ўсе часы ў нас знаходзіліся тыя, хто нажываўся на чужой бядзе.

...Калі запытваеш у брагінцаў, як пачуваюць яны сябе ў радыяцыі, на дзіва чуеш жартаўлівы адказ. На гэтую тэму людзі прывыклі іранізаваць: ад радыяцыі, маўляў, сала гарчэй не робіцца. "Мы, мабуць, як тыя каларады ці вусякі, да ўсяго прызвычайваемся, і ніякая трасца не бярэ. Толькі вось памерла людзей багата. Маладых. Ад радыяцыі". У старажылаў адзіны дыягназ — бэры і кюры ва ўсім вінаватыя. А таму сёння чужая смерць не выклікае тут асаблівага ажыятажу. Так трэба значыцца. Гэта калі раней людзі да перасялення жылі двор у двор, сябравалі сем'ямі, свята і гора былі агульнымі для ўсіх, то зараз, калі лёс параскідаў іх па розных мястэчках, дзе ведаюць адзін аднаго ну хіба толькі ў твар, — адыход чалавека ў іншы свет успрымаецца як звычайны фінал фізічнага існавання.

Ад Брагіна да вёскі Чамярысы дваццаць кіламетраў. Адразу пасля катастрофы для перасяленцаў тут адбудавалі яшчэ каля ста катэджаў. Людзі са ўсім скарбам пераехалі на новае месца, але, як бачна, не надоўга. Наперадзе іх чакае новае перасяленне. Куды і калі на гэты раз закіне лёс старых і новых жыхароў Чамярыс, дакладна ніхто не ведае. Але ці балела гадоў пяць-сем таму галава ў тагачасных чыноўнікаў, калі ўсё рабілася дзеля галачкі ў справаздачу на партсходзе? А іх саміх з дня на дзень чакалі добраўпарадкаваныя кватэры ў Гомелі ці ў Мінску. Зразумела, што не да чужых праблем тут было, калі свая сям'я на чамаданах сядзіць. "Учора зноў хавалі, на гэты раз перасяленку, — даведаўся я ў першы дзень гасцявання ў Чамярысах. — Ліда Андрэенка зваць. Звалі... Маладая, не па старасці памерла. Закапалі. І вёску ейную даўно закапалі." Тут абавязкова вам раскажуць пра бадай адзіныя ў гэтай акрузе славутасці — мясцовыя могілкі. Іх тут двое па абодва бакі вёскі. "Здаравенныя! — сцвярджаюць местачкоўцы і пры гэтым разводзяць рукамі, — новых прозвішчаў багата з'явілася — не з гэтых мясцін нябожчык, значыцца. Маладых процьма". І адначасова раяць самому іх наведаць. Як сумна жартуюць старажылы — кожны ў рэшце рэшт знаходзіць там свой прытулак раз і назаўсёды. І для некаторых гэты "раз" ужо замнога, калі параўноўваць з тым, што многія з адышоўшых у нябыт так і не паспелі ў сваім жыцці ад штодзённых клопатаў наведаць мясцовы клуб ці фельчарска-акушэрскі пункт. Гэта ТУДЫ мы заўсёды паспяваем...

У Чамярысах няма і ніколі не было сваёй царквы ці малельнага дома, — затое ёсць свой бацюшка. І калі што — людзі адразу ідуць да яго. Па якім пытанні, думаю, зразумела: каб адлець і ў апошні шлях па-людску нябожчыка правесці. Усё да гэтага зводзіцца. Толькі ж і бацюшка, хоць і размову з усявышнім трымае, але таксама не вечны. Зусім стары стаў, ледзь ногі перасоўвае. Стары бацюшка і маладая фельчарка паважаныя людзі ў вёсцы. Толькі вось жанчыне дужа не пазайздросціш — старыя і маладыя са сваімі балячкамі ўсе да яе сунуцца. А той хоць разрывайся. Без лекаў надта не налечыш. Зноўтакі на аднаго Бога спадзявацца даводзіцца. І на гэты конт у вяскоўцаў жарт існуе. Маўляў, нічога не паробіш, трэба ў кааператыў аб'ядноўвацца — бацюшку разам з фельчаркай, каб сумесна людзей лячыць, мо што і атрымаецца. Вёска гэтая, быццам і прымаладзілася апошнім часам, але гэта толькі звонку — асфальтаваныя вуліцы, добраўпарадкаваныя дамы... А на лаўцы ля ганку, як і ва ўсе часы — дзядкі-бабулькі, на градах — рэдкі чалавеча корпаецца, і рэдкая машына ўздымае прыдарожны пыл. І зусім не чуваць дзіцячых галасоў. Хто ў аздараўленчых лагерах (добра з гэтым, праблем ніякіх няма, — школьнікаў вывозяць адпачываць на працягу ўсяго года), а хто з бальніц і клінік не вылазіць ці гасцюе ў сваякоў у больш чыстай зоне.

Ва ўсім адчуваецца адарванасць ад знешняга свету, часовасць, як гэта прынамсі кідаецца ў вочы ў любым правінцыйным мястэчку, — а мо проста жыццё даўно запаволіла свой ход, бо рухаць яго наперад няма каму. Адарванасць хаця б у тым, што многія гадамі бязвылазна сядзяць у вёсцы. Нават дабрацца ў раённы цэнтр стала вялікай праблемай — паадмянялі шматлікія аўтобусныя рэйсы. Калі і трапіш у Брагін, дык хіба толькі на машыне з чырвонай палоскай, калі ўжо ўвогуле са здароўем дрэнь будзе. Усе навіны праз радыё, якое, праўда, апошнім часам часцей маўчыць, ці праз "санта-барбаравае" тэлебачанне. Хто мае ў вёсцы тэлефон — лічаныя адзінкі. Дый званіць большасці, шчыра кажучы, увогуле няма каму. Па "03" і то з дазволу фельчаркі. Распавядалі пра такі выпадак, калі адзін з вяскоўцаў аслухаўся, парушыў негалосны загад і самавольна выклікаў "хуткую", на што муж "мядзічкі" пры яшчэ адным такім здарэнні паабяцаў паразбіваць у Чамярысах усе "тэлефонныя скрыні", каб без прычыны не дакучалі службе дня і ночы. Вось і атрымліваецца, што тэлефон у вёсцы рэч непатрэбная, для самотных пенсіянераў і падаўна, не будзеш жа ты гарачую піцу на дом са сталіцы замаўляць.

Дарэчы аб хлебе надзённым... Рэдкая чамярыская сям'я трымае менш за двух парсюкоў. Гэта не таму, што цябе абвінавацяць у гультайстве, не. Інакшай проста не выжыць. Не па кішэні пры зарплаце ў 400 тысяч і пенсіі ў 200 набываць прадукты ў мясцовай краме. Хлеб ды гарэлка — звычайны набор пенсіянера. Малако — гэта ўжо з разраду фантастыкі. Сюды яго ўвогуле не прывозяць. Але ж і трымаць пры двары карову — перасоўны атамны рэактар — асцерагаюцца. І без таго арганізм паспее назапасіць свае бэры і кюры падчас сезона грыбоў і ягад.

Тут як і раней існуе натуральны тавараабмен. Хто самагонкай сваёй славіцца, хто рыбным промыслам займаецца. Гэтыя паміж сабой заўсёды дамовяцца. Добра — побач Дняпро разліваецца. Але па другі бераг ракі ўжо замежжа, іншая дзяржава — Украіна. З высокага абрыву ракі нават дахі дамоў Любеча відаць — зусім рукой падаць.

Больш ахвотныя да размовы — састарэлыя людзі. Але і тыя напачатку ставяцца да цябе з лішняй перасцярогай: прымаюць за чарговага перасяленца ці члена якой камісіі. Калі ж ты яшчэ з самой матухны-сталіцы, якую яны маглі назіраць толькі ў тэлевізійных праграмах, — абавязкова папросяць перадаць прывітанне дачцэ ці сыну, што зусім пачалі забывацца на старых бацькоў.

— А што гэна за крумкачы гэткія? — запыталася перасяленка Марыя. — У газеце нейкай вычытала: Вось і думаю...

Я растлумачыў.

— Дык вось і дзеткі нашыя, як тыя... ну толькі на кумпячкі злётваюцца. Але ж дзеля іх і жывем цяперака. Радзей усё бываюць. На радаўніцу калі...Ды куды ехаць у радыяцыю такую. Але дужа ўнукаў пабачыць хочацца.

Марыя даўно на пенсіі — па здароўі пайшла. Уся гаспадарка на мужы вісіць. Яна ну хіба толькі здатная бацвіння настрыгчы, а ўжо іншае што рабіць — зусім неўмагату. Дзе ж тут пра сумнае не загаворыш.

Толькі надарылася так,што ў ролі інтэрв'юера часцей выступала Марыя, а не я. Усё пра сталіцу распытвала, дый увогуле — што ў свеце вялікім чуваць. Зразумела, не кожны дзень такія знаёмствы надараюцца.

— Вось я пытаюся, чалавеча, а ці знайшлі забойцу Лісцева? — і жанчына, не дачакаўшыся адказу, пачынае разважаць на адмысловай мясцовай гаворцы, змешваючы ўкраінскія і беларускія словы. — А я ім адразу казала — не знойдуць. Як у нас да прыкладу было — два разы краму абабралі. Па гарэлку ўсё лезуць, па анучы — ані! Ды хіба знайшлі? Вось і тамака...

Ці пра "Пугачову з ейным Хвіліпам" пытаецца, ці пра Анатоля Ярмоленку, спевака свайго любімага:

— Дужа пабачыць і самой паслухаць іх хочацца. Але куды там! Дзеці сюды ехаць не жадаюць, а чужыя хіба кінуцца. Ты вось паслухай, няўжо ў вас вада ў горадзе такая — ржа іржой? Вось і ў нас. Гэта раней я не ведала, што вада нясмачная бывае. Калі ў Глухавічах калодзеж свой мелі, нявестка прыязджала, усё нахвальвала. То жывая вада была, не такая як у Чамярысах.

Калі будзе чарговае перасяленне, Марыя, дый не толькі яна адна, дакладна ведае, што нікуды не паедзе. Не тыя гады, каб жыццё новае ў гарадскіх палацах пачынаць. І назад, упэўнена, ніколі не вернецца. Сэрца не вытрымае — марадзёры ўсю вёску да заняпаду давялі. Лазой сядзібы пазарасталі, платы павыдзіратыя і дамы ў цвілі з пустымі шыбніцамі зацягнутыя павуціннем стаяць. Відовішча не для слабанервовых. Вось ад аднаго б не адмовілася Марыя — вады той, з калодзежа, што ў двары, хаця б глыточак, каб смагу раз і назаўсёды наталіць...

БРАГІНШЧЫНА чамусьці атаясамляецца з вялікім музеем пад адкрытым небам, як сведчанне аб катастрофе амаль дзесяцігадовай даўніны. Экспанаты якога — могільнікі і зраўняныя з зямлёй ці апусцелыя вёскі, недагледжаныя палеткі. Дзе рэдкія людзі выступаюць у ролі экскурсаводаў. Калі так, то экскурсія чакаецца не з прыемных. Пра ўсё тут будуць гаварыць у мінулым часе:"быў, былі, жыў..." Толькі па дарозе з Брагіна да Хойнікаў сустракаецца каля дзесяці вёсак, ад якіх акрамя назвы нічога не засталося — Сабалі, Старагляды, Рудакова, Марытон... Ля Марытона — могільнік, дзе навечна ў зямлі забетаніраваны забруджаныя радыенуклідамі рэчы. Нейкая частка — тэхніка, вайсковая уніформа, знятая глеба — была вывезена і пахавана пад Чарнобылем у першыя месяцы катастрофы. Дзесьці побач непадалёк ад "могільніка мясцовага прызначэння", у адным з паселішчаў яшчэ працягвае жыць звыш дваццаці сем'яў, на якіх таксама распаўсюджваецца першачарговае права на адсяленне.

— У выніку катастрофы, — як паведаміў намеснік старшыні райвыканкама Канстанцін Мішчанка,— раён страціў звыш 50 працэнтаў пашы, з якой у свой час збіралі ўраджай ад 70 да 76 цэнтнераў збожжа з гектара, калі на казахскай цаліне па 13-16 і тое дзякуючы вялікім плошчам.

Зараз гэтыя землі пачалі часткова асвойваць. Сёлета ўпершыню пасля вялікага перапынку правялі пасяўную ў калгасе з нязменнай назвай "Шлях камунізму", на тэрыторыі якога, дарэчы, знаходзіцца вёска Сабалі — радзіма пісьменніка Рамана Сабаленкі. У рэшце рэшт людзям тут даўно ўсё роўна, якім шляхам ісці і якое ці чыё імя носіць іхняя гаспадарка. Не да глабальных праблем зараз, ледзь канцы з канцамі даводзіцца зводзіць і спадзявацца выключна на свае сілы. Калі яны не апошнія... А калі іх увогуле не засталося? Тады чарговыя апусцелыя хаткі пераходзяць у падпарадкаванне "музея пад адкрытым небам"...

Аб культурным жыцці Брагіншчыны ўвогуле казаць штонебудзь складана. Тут, прынамсі, як і ва ўсім астатнім, ва ўласным саку і на голым энтузіязме варыцца даводзіцца. Асігнаванняў на культуру выдаткоўваецца ўсё меней і меней. Праўда брагінцы яшчэ памятаюць шматлікія канцэрты беларускіх эстрадных выканаўцаў у сябе на радзіме — калектыву "Сяброў", Саладухі, Вуячыча. Але гэта ўжо ў мінулым. Тады ўсе выдаткі на правядзенне канцэртаў на сябе брала буйнейшыя гаспадаркі раёна. А цяпер, у часы эканамічнага крызісу, запрасіць "зорку" не па кішэні. Адным з апошніх знакамітасцяў на Брагінчшыне, за выключэннем А.Лукашэнкі, тут быў са сваім творчым вечарам кампазітар Ігар Лучанок — 26 красавіка 1994 г. Такія святы тут ніколі не забываюць.

У Брагіне ёсць свой РДК, але няма дырэктара. Жанчына, што займала гэтую пасаду, месяц таму разлічылася і пераехала на іншае месца жыхарства.

На Брагіншчыне, як у кожным раёне, ёсць свае таленты, але няма спецыяліста, які мог бы скіраваць гэтыя таленты ў правільнае рэчышча. Ёсць самадзейныя творчыя калектывы — не хапае музыкаў, я ўжо не кажу пра прафесійных. Канцэрты, агляды самадзейнасці праводзяцца ў Брагіне выключна сіламі дамоў культуры раёна. Сюды прыязджаюць з Малажына, Камарына, Сяльца, Крыўчанска...

У Брагіне ёсць свой краязнаўчы музей. Зрэшты, ён так толькі называецца. Экспанаты яго знаходзяцца ў адным крыле былога дзіцячага садка і дагэтуль неўпарадкаваныя. Музей чакае свайго экскурсавода, дырэктара, гісторыка хаця б у адной асобе — на большае спадзявацца не даводзіцца. А пакуль захавальнікам фонду па сумяшчэнні з'яўляецца кінамеханік.

У Брагіне ёсць свая карцінная галерэя, адзіная ў сваім родзе ў Беларусі, прысвечаная Чарнобыльскай тэматыцы. Яна месціцца па суседству з "музеем", толькі ў другім крыле садка, які даўно просіць капітальнага рамонту. У галерэі экспануюцца карціны, падораныя земляком В.Шматавым, і іншыя працы мастакоў, набытыя за бюджэтныя сродкі горада. Як сказаў Канстанцін Мішчанка, узнікні задума стварэння ўласнай галерэі сёння, то ні на адну з гэтых карцін грошай проста не знойдзецца.

Але сабраць іх у экспазіцыю і заснаваць галерэю — адна справа, зусім іншае — займець на яе поўнае права. Галерэю ў Брагіне, не задумваючыся, хацелі забраць і перавесці бліжэй да цэнтра вобласці, напрыклад, Калінкавічы. Толькі з гэтага нічога не атрымалася. Брагінцы паўсталі супраць, для іх галерэя — бадай адзінае на сённяшні час, чым яны могуць па праву ганарыцца. Затое цяпер ім не адбіцца ад ахвотнікаў, якія жадаюць за любыя грошы набыць на памяць аб Брагіншчыне што-небудзь з музейных экспанатаў ці прац слынных мастакоў. Спасылаючыся на тое, што атрыманых грошай яўна хапіла б на рэстаўрацыю і давядзенне да ладу будынка мясцовага цэнтра культуры. Але ісці па гэтым шляху ў Брагіне пакуль не збіраюцца. Хто ведае, можа толькі пакуль?!

Але ці магчыма зараз увогуле рабіць якія-небудзь прагнозы? Зразумела, наш аптымізм — рэч праверакая. На ім і трымаемся. Толькі ці надоўга яго хопіць?

**Міхась РАВУЦКІ**

Мінск — Чамярысы — Брагін

CINEMA-100

# "САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ АДРАЗУ ЗА ВУГЛОМ"...



Адбыўся V Міжнародны кінафестываль "Пасланне да чалавека" ў Санкт-Пецярбургу. Зразумела, што горад Пятра становіцца на некалькі дзён кінематаграфічнай сталіцай свету не толькі дзякуючы ўдзелу мэра Сабчака, які ў каторы раз абіраецца старшынёй аргкамітэта. Як высветлілася з размоў з удзельнікамі фестывалю, да гэтай падзеі рыхтаваліся шмат студый, творчых груп, кіншкол, рэжысёраў. І, трэба сказаць, рыхтаваліся на сур'ёзным узроўні. Некаторыя, напрыклад, адмовіліся ад удзелу ў фестывалі ў Марсэлі, каб трапіць у Санкт-Пецярбург. Аргенцінская школа кінамастацтва прыехала ў поўным складзе факультэта універсітэта, каб заявіць з экрана фестывалю: "Галівудызацыі Паўночнай Амерыкі — НЕ!" І ведаеце, у гэтых маладых таленавітых аргенцінцаў атрымалася. Ды й шчэ як!

Дакументалісты Швецыі ў каторы раз змагаюцца за пальму лідэрства на фестывалі, і ў каторы раз Санкт-Пецярбургскі фэст цярпліва вытрымлівае націск шведаў. Мусіць, і кінаштурм набывае гістарычныя традыцыі? Хаця мне, шчыра кажучы, стужка Кірсі Неванці "Санкт-Пецярбург адразу за вуглом" нечакана спадабалася. Цікавы падыход шведскага рэжысёра да надзённых праблем Расіі праз гісторыю і час. Гераіня — бабулька, чысцільшчыца абутку ля пяцізорачнага гатэля "Еўропа". Глядач спасцігае гісторыю бабулькі і горада па хранікальных кадрах, якія чаргуюцца з сучаснымі карцінкамі урбанізаванага ладу жыцця...

Кінахроніка — гэта мастацтва асобага роду. Адсутнасць у сховішчах фондаў планеты кінахронікі мінулага мы адчуваем у XX стагоддзі як трагічны дэфіцыт гістарычнага адлюстравання.

Цяпер, калі тэлебачанне ўзяло на сябе цалкам інфармацыйныя функцыі, мы адчуваем кінахроніку як прынцыпова элітарнае мастацтва.

Хроніка ўвогуле — рэфлексія свету: свет назірае сам сябе з дапамогай хранікёра, які з'яўляецца толькі інструментам гэтай рэфлексіі. Хроніка — гэта забаўка свету для самога сябе, і яе мэта — самаідэнтыфікацыя свету. Праз падваенне, патройванне вобразаў свет нібы параўноўвае ў часе сябе з сабою, карэкціруе і развіваецца: самадубліраванне на выпадак знішчэння.

На фоне тэлебачання, відэа- і камп'ютэрных галін кінапрацэс — гэта апошняя "ручная" тэхналогія, нетаропкае высокае майстэрства. Здаецца, кінахроніка намагаецца перадолець час і ўзвесці адлюстраванне таго, што фіксуе камера, у сімвал. Гэта не проста здымкі фрагментаў жыцця, а пастаянны працэс.

Доказам таму стала стужка нідэрландскага рэжысёра Вінсэнта Манікендама "Матка Дао — чарапаха". Чароўная энергія хронікі, якую здымалі ў пачатку нашага стагоддзя, пазбаўляла перспектывы перамогі астатнія стужкі-канкурэнты. Канцэпцыя рэжысёра не была складанай. Але ж прафесійнай і асэнсаванай. Больш за 260 тысяч метраў дакументальнага матэрыялу з галандскіх кінаархіваў (кадры 1912-1933 гг., знятыя яшчэ без гуку) паслужылі крыніцай для гэтай карціны. Мэта — паказаць, як Нідэрланды кіравалі сваімі калоніямі ў той час і якімі былі адносіны грамадства да калоній. Звычайны каментарый адсутнічае, замест яго гучаць вершы і песні Інданезіі. Назва фільма заснавана на легендзе вострава Ніяс: Зямля была створана Маткаю Дао. Яна скруціла маленькі шарык з бруду свайго цела; гэта і была Зямля. Пазней Матка Дао нарадзіла хлопчыка і дзяўчынку, першых людзей.

Жыхары Ніяса бачаць абрыс гарызонту пукатым, як панцыр чарапахі. Таму яны называюць стваральніка Зямлі Матку Дао — чарапахай.

Акрамя міфалогіі і законаў, па якіх жылі астравіцяне, аўтары фільма паказалі станоўчае і адмоўнае ў працэсе каланізацыі пачатку стагоддзя. І пакінулі права гледачам на фантазійную тэму: "Калонія — у мінулым, будучым — ці існуе і сёння?" А мо яно, пытанне, рытары-



***Вадзім АБДРАШЫТАЎ, старшыня журы Міжнароднага конкурсу, нарадзіўся ў 1945 годзе, скончыў "ВГИК" (майстэрня М.Рома і Л.Куліджанава). Зняў фільмы: "Слова для абароны", "Паварот", "Палянанне на ліс", "Парад планет", "Плюмбум, або Небяспечная гульня", "Слуга", "Армавір", "П'еса для пасажыра".***

***Шмат разоў ягоныя стужкі былі адзначаны на розных кінафестывалях, у тым ліку на Берлінскім і Венецыянскім.***

**— Вадзім, у Мінску Дні расійскай культуры — кінематаграфічная праграма — адкрываліся Вашым новым фільмам...**

— Я аб гэтым упершыню чую. Цікава...

**— Так, менавіта фільмам "П'еса для пасажыра". Трэба сказаць, што ў Беларусі шмат прыхільнікаў Вашага кінамастацтва. Відаць, таму і заўсёды поўныя залы і шмат крытыкі. Напрыклад, як сцвярджаюць крытыкі, у апошняй карціне героі паўтаралі фразы з папярэдняга фільма "Слуга" і ...**

— Ведаю ўсё. Справа ў тым, што ў мяне няма адказаў на крытыку. Я здымаю, што мне падабаецца і як я ўмею, — гэта мая родная справа. А крытыкі робяць сваю справу — крытыкуюць, успрымаюць, хваляць ці наадварот... Адным словам, работы нашыя такія.

А наконт апошняй стужкі — дык яна мне цікавая, дарагая, як і ўсе папярэднія. Я спецыяльна намагаўся некалькі тэатралізаваць карціну. Лічу, што нешта мне ўдалося. У карціне бліскучы ансамбль акцёраў, большасць якіх дэбютавала ў кіно. Сапраўды, гераіня ў выкананні Германавай — бліскучая роля! Магчыма, папрокі крытыкаў былі ў адрас знакамітага Макавецкага...



Дык прабачце, для Макавецкага праца са мной у фільме — таксама дэбют. Адзіны акцёр Юры Бяляеў працуе ў маіх карцінах не ўпершыню.

**— На пецярбургскім фестывалі ці заўважылі Вы адметныя рысы чагосьці новага ў кінематографе?**

— Вядома ж, пакуль конкурсны паказ не скончыўся, канчатковыя адзнакі выстаўляць я не маю права. Падкрэслю толькі: дакументальнае кіно больш прафесійнае і цікавейшае за ігравое. Толькі не трэба разглядаць мае заўвагі як тэндэнцыю ў кінематографе краін СНД. На маю думку, гэта натуралёвы творчы працэс, бо жанр ігравога кароткаметражнага кіно патрабуе высокага прафесіяналізму ад усіх творцаў стужкі. Упэўнены, што звычайную мастацкую стужку лягчэй зняць, чым кароткасюжэтны фільм.

**— Дзякую за размову.**

***Міхаіл ЛІТВЯКОЎ, генеральны дырэктар фестывалю:***

**— Міхаіл Сяргеевіч, мне падалося, што ў хуткім часе і кінафестывалі стануць прыватнымі. Будуць мець непаўторныя рысы дзякуючы сваім "бацькам" ці імёнам...**

— Хіба гэта дрэнна? Толькі б хапіла моцы рэальна ажыццяўляць даўнюю мару чалавецтва — пераварыць усё ў экраннае відовішча, усё, што хвалюе і будзе хваляваць. Ад падрабязнасцей інтымнага жыцця да падзей планетарнага маштабу.

**— У гэтым годзе на фестывалі нарадзілася новая конкурсная праграма "Дэбют".**

— Так. Само жыццё глядзіць на нас з экранаў, уплывае на нашу свядомасць. Я лічу, што важна сказаць Першае слова на мове кіно, так, каб яно, сапраўды было добрым і адрасавана Чалавеку. Толькі праз дабрату і пазнаем мы здольнасці Чалавека, які заўсёды — індывідуальнасць, а на планеце Зямля — аўтар дабраты.

*У дапамогу кінаману*

## "ЖЫЦЦЁ ПА ПОШЦЕ"

Румынская жанчына атрымлівае па пошце відэакасету ад свайго мужа, які некалькі гадоў таму эміграваў у ЗША. Яна вырашае пасылаць яму адказ таксама ў касеце.

Перажыванні жанчыны перад відэакамерай...

## "З ПІКАСА АТРЫМАЎСЯ Б ДОБРЫ АФІЦЫЯНТ"

Дзевяць розных эпізодаў пра будні і жаданні афіцыянтаў, якія працуюць у вядомай нью-ёркскай фірме харчавання "Джэнерал Фудс", а ў вольны час займаюцца мастацтвам. Дзеянне адбываецца то ў музеі Метраполітэн, то ў Гугенхэйме, у Лінкальн-цэнтры і на паштамце, на Цэнтральным вакзале і ў Публічнай бібліятэцы.

Рэжысёр Шэл, удзельнік 25-і фестываляў, сабраў 11 узнагарод. Працуе ў ЗША.

## "ПАРАДЖАНАЎ: АПОШНІ КАЛАЖ"

Першая сумесная работа французскіх і армянскіх кінематаграфістаў. Герой фільма Параджанаў успамінае сваё жыццё, сваё дзяцінства, звязвае яго са сваімі снамі. Тэкст за кадрам, чытаецца з дзённіка вядомага рэжысёра. Любоў, Смерць, Турма, Сябры, Тыфліс, Кіеў, Ерэван — сем карцін, сем расказаў Параджанава, у якога былі блізкія і якія дзялілі з ім ягоны шлях.

Рэжысёр Рубен Геваркянц нарадзіўся ў 1945 годзе ў Ерэване. Аўтар больш за 40 фільмаў, сярод іх — тры поўнаметражныя. Мастацкі кіраўнік студыі дакументальнага кіно "Хаік". Прафесар Ерэванскага інстытута кінематаграфіі. Лаўрэат міжнародных прэмій.

CIHEMA-100

чнае? Дарэчы, з-за філасофскай канцэптуальнасці пытання нідэрландскіх кінадакументалістаў хочацца ўзгадаць і стужку Аляксандра Сакурава " І нічога болей". Зразумела, яна не ўдзельнічала ў конкурснай праграме фестывалю "Пасланне да чалавека". Некаторыя глядзелі яе цяпер упершыню. Упершыню і ўбачылі і пачулі: чаго каштавала імперыі СССР затрымка



з адкрыццём другога фронту ... Ну, а які кошт заплацілі беларусы ў Другой сусветнай вайне,бадай, будзем ведаць "толькі мы з табой".

Не падумайце, што гэта ўва мне гаворыць ліпавы патрыятызм. Справа ў тым, што ментальная якасць беларуса — маўклівасць і пакорлівасць —пусціла свае карані задоўга да 1 верасня 1939 года! Прынамсі, мяне ўвогуле ўжо не здзіўляюць пытанні на міжнародных імпрэзах: "Беларусь, гэта тая, што хутка будзе Расіяй?" Таму, відаць, і атрымала я акрэдытацыю, між іншым загадзя падрыхтаваную аргкамітэтам з удакладненнем пасля прозвішча і імя — "Россия". Словам, інтэграцыйны пачатак пакладзены. Або кіно на Беларусі "местачковае"? Сапраўды, кіно ды і толькі!

Але ж у размовах са шматлікімі кінакрытыкамі і рэжысёрамі некалькі разоў атрымала "кайф" ад пытанняў: "Ці прывезлі беларусы стужкі на гэты фестываль?", "Над чым зараз працуе Юры Хашчавацкі — колішні ўладальнік Гран-пры?" Пагадзіцеся, прыемна.

На маю думку, беларускія кінахранікёры (і не толькі) маглі б стаць у адзін рад з аргенцінцамі, якія пратэстуюць супраць каланіяльнай залежнасці айчыннага кінематографа. У нас, як і ў іх, няма кінамайстроў "залатога" творчага ўзросту: існуе толькі школа выпускнікоў "ВГИКа" пачатку 70-х гадоў. А далей — цішыня, гадоў на дваццаць. І вось, урэшце, мы самі выхавалі маладую таленавітую змену з кінамайстэрняў Віктара Дашука і Віктара Турава. На той час выпускі былі чаканыя і сталі падзеяй для Беларусі. Падзеяй і надзеяй на тое, што іх пачуе і ўбачыць увесь кінасвет... Магчыма, нам заўсёды нешта перашкаджае трапляць на фестывалі, магчыма, гэтая вымушаная барацьба — проста задавальненне мэтраўскіх амбіцый. А ўвогуле, дарагія мае суайчыннікі, вашыя дыпломныя работы я бачыла, прынамсі, у Доме ветэранаў і сведчу: некаторыя маглі б стаяць у конкурснай праграме любога міжнароднага фэсту, не зважаючы на тое, з кім вы, майстры кіно...

**Жанна ВАСАНСКАЯ**
Санкт-Пецярбург — Мінск

*На здымках: Міхаіл Літвякоў і Анатоль Сабчак у перапынку; штодзённыя прэс-канферэнцыі.*

**Фота Аляксандра ІВАНОВА**

## "НЕ Ў ТАКТ"

Агнэс, якая на дваццаць гадоў старэйшая за музыканта, — легендарны фатограф. Тое, што пачынаецца як звычайныя рэкламныя здымкі, па "віне" двух аднолькава таленавітых мастакоў пераўтвараецца ў даследаванне празрыстых межаў, якія падзяляюць мастацтва і жыццё.

Маючы ўсяго 45 хвілін, адведзеных менеджэрам на здымкі, Агнэс і Уладзімір сутыкаюцца ў гульні ў "кошкі-мышкі". У кожнага свой план бяседы, але ж усё запланаванае разбураецца, пачынаецца зусім іншая тэма...

Рэжысёр Карэт Ліннэ вывучала тэатр у Манрэалі. Апошнія чатыры гады працуе на кінастудыі Ванкувера ."Не ў такт" — дыпломная работа ва універсітэце правінцыі Брытанская Калумбія.

## "ЛІСТЫ НА ТОЙ СВЕТ"

Гэта гісторыя пра маладога чалавека з вёскі, што на Балканскіх гарах, які працуе ў Турцыі і Персіі. Пра яго неверагодную кар'еру ў Галівудзе і патаемнае знікненне.

У стужцы выкарыстаны архіўныя кадры, лісты рабочых-эмігрантаў з розных краін свету, а таксама кінахроніка з Турцыі, Персіі і Амерыкі.

Рэжысёр Канстанцін Бонеў, нарадзіўся ў 1951 годзе ў Траўне. У 1980 годзе скончыў "ВИТИ" ў Сафіі. Спецыялізацыя —дакументальныя фільмы. Працуе ў Балгарыі.

***Міжнародны конкурс дэбютаў дакументальнага кіно:***

- Гран-пры "Залаты кентаўр" атрымала стужка Вінсэнта Манікендама "Матка Дао — чарапаха", Нідэрланды.
- Прызы "Кентаўр" — "Лісты на той свет", Канстанцін Бонеў, Балгарыя.
- "Не ў такт", Карэт Ліннэ, Канада.
- Спецыяльным дыпломам журы адзначыла стужку Рубена Геваркянца "Параджанаў: апошні калаж", Францыя.

***У намінацыі анімацыйнага кіно "Кентаўр" быў прысуджаны фільму Аляксея Хартыдзі "Гагарын".***

***У міжнародным конкурсе першага фільма ўзнагароды атрымалі:***

- "Кентаўр" — стужка Сяргея Дварцавога "Шчасце", Расія.
- Спецыяльны дыплом журы атрымала Алена Малікава за стужку "Бездань", Расія.
- Прыз журы — фільму Марыуса Барна "Жыццё па пошце", Румынія.
- Дыплом фестывалю "Пасланне да чалавека" атрымала стужка Джанатана Шэла "З Пікаса атрымаўся б добры афіцыянт", ЗША.

***Аднойчы з прафесійнага інтарэсу, пасля прагляду знакамітага фільма "Горад жанчын", я правяла невялікае апытанне. Было толькі адно пытанне, як здавалася мне, музыказнаўцы, вельмі простае:"Як вам спадабалася музыка з гэтага фільма?" Няшчасныя рэспандэнты, у сваю чаргу, збянтэжана пыталіся ў мяне: "А што, яна там была?" Аналагічныя запытальныя адказы я атрымала з нагоды іншай вядомай кінастужкі М.Рома "Дзевяць дзён аднаго года". Вынікі апытання, няхай нават і самадзейнага, прывялі мяне ў некаторы, як бы гэта мягчэй выказацца, — смутак, аднак, даволі звыклы. Па ранейшаму глядач не чуе гэтай самай музыкі ў фільме, бо не звяртае на яе ўвагі. І толькі выразная мелодыя з прытоеным сумам, як у "Хросным бацьку", або гучна спетая ў кадры альбо за кадрам песня — вось тады вушы гледача становяцца ў баявую стойку, а вока менш уважліва, але больш расслаблена сочыць за экранам. А справа ў тым, што ў "Горадзе жанчын" музыка сапраўды была — і вельмі важная для гэтай філасофска-сатырычнай прытчы, а вось у фільме Рома яе не было зусім — па прынцыповых разуменнях рэжысёра. Атрымліваецца, што глядач заўсёды застаецца толькі гледачом і толькі ў выключных выпадках становіцца і слухачом. А ці патрэбна ўвогуле музыка сучаснаму кіно? З гэтага пытання пачалася наша размова з кампазітарам Сяргеем Бельцюковым, які цікава і актыўна працуе ў беларускім кінематографе.***



# ЯК НАПІСАЦЬ МУЗЫКУ ДА... ДЭТЭКТЫВА?

— Фільм без музыкі можа стварыць толькі геніяльны рэжысёр альбо, прынамсі, неардынарная асоба. А прыкладна 90 працэнтаў рэжысёраў, на мой погляд, хапаюцца за яе, як за выратавальны круг. Калі ідзе праца над спалучэннем музыкі і выявы, рэжысёр сам часам здзіўляецца выніку, ён распроствае плечы, ён геній! Можа і здзівіцца:"Ну, ты даеш!"— гэта ў тых выпадках, калі музыка аказваецца лепш, мацней за зняты матэрыял. Таму даводзілася калі-нікалі і нанава манціраваць кавалкі фільма.

**— Атрымліваецца, што музыка — п'едэстал для рэжысёра?**

— У пэўным сэнсе, так. Але, вядома, у першую чаргу для фільма. Яна можа выцягнуць нейкі глыбінны сэнс, выклікаць у гледача асаблівыя пачуцці і думкі з нагоды ўбачанага. Да апошняга фільма Валерыя Панамарова "На чорных лядах" я напісаў шмат музыкі. І на праглядах — пакуль закрытых, масавы глядач яшчэ не бачыў фільма —пераканаўся, што без яе карціна ўспрымалася б нашмат складаней. А музыка дапамагла склеіць, сцэментаваць драматургію фільма.

**— І як музыка суадносіцца тут з палітычнай тэмай, бо апавяданні Васіля Быкава, якія леглі ў аснову сцэнарыя, расказваюць пра трагічныя старонкі грамадзянскай вайны?**

— Мяне больш цікавіў эмацыянальны бок. Калі я бачу персанажы ў экстрэмальнай сітуацыі, мяне цікавяць перш-наперш іх рэакцыя на падзеі, іх пачуцці.

**— А якая была "звышзадача" музычнага вырашэння фільма " Тутэйшыя" — тут жа таксама важныя сацыяльна-палітычныя матывы?**

— Спачатку зрабілі акцэнт на тое, што гэта камедыя, і я сам ад душы смяяўся на праглядзе фільма. Безумоўна, шмат ідзе ад літаратурнай асновы — п'есы Янкі Купалы. Але ў час працы над фільмам рэжысёр Валеры Панамароў даваў устаноўку на ўвасабленне маштабнай нацыянальнай ідэі. Ён жа падабраў вершы Коласа і Купалы, на якія я напісаў некалькі хароў.

**— На мой погляд, гэта сур'ёзная, зусім не камедыйная музыка стварае ў фільме разам з тэкстам духоўную прастору для разважання і абагульнення падзей ужо з сучасных пазіцый, на гістарычнай адлегласці. Маем, што неадпаведнасць музыкі жанру фільма ідзе апошняму толькі на карысць. А як жа быць, напрыклад, з кінамеладрамай, дзе музыка па традыцыі павінна "рыдаць" і выціскаць слёзы з вачэй даверлівага гледача?**

— Сучасная меладрама ўжо не столькі шчырая. У фільме "Сонечны дзень у канцы лета" Сяргея Арцімовіча гаворка ідзе пра драматычны момант у жыцці бацькі, у якога цяжка хворае дзіця. Дзея фільма адбываецца ў лякарні і ў бальнічным парку. Сітуацыя сумная, але не безнадзейная. Таму і ў музыцы я стараўся абысціся "без слёз".

**— Але вось у дэтэктыве альбо ў прыгодніцкім фільме ўжо ніяк не адысці ад штампаў музычнага вырашэння...**

— І тут ёсць свае магчымасці для пошуку. І, у дадзеным выпадку, важная пазіцыя і ўстаноўка рэжысёра. Напрыклад, Віктар Шувагін працуе ў своеасаблівай манеры — ён "закручвае" сюжэт, адыходзіць ад рэальнай сітуацыі і канкрэтнага часу да адцягнутых, філасофскіх абагульненняў. Памятаеце, у яго трылеры "Ноч ля дарогі" гаворка ідзе, здавалася б, пра час калектывізацыі — але гэта знешні слой, сэнс дзеі нашмат глыбейшы. І акрамя звычайнай для трылера "страшэннай", напружанай музыкі я ўключыў і незвычайную — там гучыць калыханка на верш Купалы —яе вельмі дакладна і тонка выконвае хор пад кіраўніцтвам І.Мацюхова. А побач з гэтым натуральным гучаннем існуе і электроннае, Апроч таго, музыка своеасабліва перапляталася з шумамі, мовай —тут існавала сапраўдная шумавая драматургія. Увогуле для мяне гэта была адна з самых цікавых работ.

"Восьмы рэйс" —фільм таго ж рэжысёра — таксама можна назваць псіхалагічным трылерам. Для яго мне была замоўлена музыка і песня на вершы Іосіфа Бродскага "Ты поскачешь во мраке". Сюжэт фільма знешне прывязаны да бытавой сітуацыі — людзі проста едуць у аўтобусе, яны розняцца ўзростам, жыццёвым досведам, лёсам. Яны трапляюць у Зону, дзе з імі адбываюцца розныя трансфармацыі. І вось лірыка-драматычная песня — дарэчы, яе выдатна выконвае Лідзія Студнева — як бы канцэнтруе ў сабе складаны змест фільма. Гэта накшталт мікрафільма ў фільме.

**— Сяргей, а як Вам такая сітуацыя, калі рэжысёр дае пэўнае заданне, розныя ўказанні?**

— Даспадобы. Тады разумееш, чаго рэжысёр хоча. Вось калі ён не ведае — гэта жахліва! Вядома, я не працую, як Пракоф'еў, якому Эйзенштэйн даваў заданне напісаць музыку, напрыклад, на дзве хвіліны і пяць секунд. Цяпер гэта не мае сэнсу. Я працую на камп'ютэры, з дапамогай якога можна "сціскаць" і "расцягваць" музыку ў часе.

І ўвогуле сучасная апаратура дапамагае выконваць самыя разнастайныя заданні рэжысёра. Дапусцім, рэжысёр-дакументаліст Анатоль Алай у працы над фільмам "Чорная дарога" арыентаваў мяне на стыль класічнай музыкі — Бах, Вівальдзі, Чайкоўскі. І я зрабіў такі ход: запраграмаваў музыку Чайкоўскага з оперы "Пікавая дама" — ніводная нота не была зменена, — спалучыў яе са сваёй музыкай, і класіка набыла новы сэнс у гэтым поліфанічным сінтэзе.

**— У мяне склалася ўражанне, што дакументальны кінематограф дае больш магчымасцей для пошукаў і эксперымента, у тым ліку і ў галіне музыкі.**

— У дакументальным кіно лягчэй працаваць —тут у музыкі большая сэнсавая нагрузка. Магчымасць гэтага "вольнага дыхання" з'явілася ў мяне ў поўнаметражным фільме Віктара Дашука "Віцебская справа". Скажу вам, што гэты фільм больш напружаны чым трылер, ва ўсіх трох серыях на экране трупы, трупы. Герой фільма —забойца, на яго ліку больш за 50 ахвяр. Гэта звер, але са сваёй філасофіяй. Размаўляе ён у фільме мала, але камера безупынна трымае яго "пад прыцэлам" — яго твар, жэсты, рухі зняты "рапідам", запаволена. Мая задача была раскрыць вобраз гэтага антыгероя. Я стараўся перадаць музыкай шокавы стан, напружанасць на апошняй мяжы. Гэта было цяжка, але, як ні дзіўна, сам я працаваў без асаблівага напружання — з пазіцыі мастака-каментатара, некалькі адхілена. Мяне захапіла і чыста кампазітарская задача — да кожнай з трох серый напісаць самастойную музыку, хаця можна было вар'іраваць музычны матэрыял першай серыі ў дзвюх другіх. І, на мой погляд, атрымалася добра. Трэба сказаць — Дашук як рэжысёр сёння адзін з самых "музычных" рэжысёраў, і гэты фільм ён вырашыў стварыць не з цытатнай, а з арыгінальнай музыкай.

**— Такая "музыка стану" скіравана, у першую чаргу, да падсвядомасці таго, хто яе ўспрымае...**

— Няма сумнення, і не толькі кінамузыка. У мяне ёсць, умоўна кажучы, "лячэбная музыка", альбо самастойныя творы з пэўным гаючым эфектам: гэта "Музыка дажджу", у якой прысутнічаюць гукі грому, аддаленай навальніцы — дзіўна, але гэтыя гукі заспакойваюць. Альбо "Музыка мора" — медытатыўнага плана. У "Музыку лесу" ўплятаюцца спевы птушак, але гэта "штучныя" птушкі — электронная імітацыя іх пошчаку і свісту. У цэлым гэтыя п'есы адносяцца не да шумамузыкі, а да "чыстай" музыкі, дзе ёсць яскрава выяўленая мелодыя, пэўныя інструментальныя тэмбры.

**— І яны ўздзейнічаюць на падсвядомасць, нібы магія Кашпіроўскага?**

— Зусім не. Там гіпноз, які пераходзіць у псіхоз. А тут двух-трохххвіліннае пагружэнне ў незвычайны стан. І, вядома, ніякай агрэсіі.

**— А кінамузыка і самастойная творчасць раўнаважныя для кампазітара, альбо ў кіно больш "лёгкая", рамесніцкая праца?**

— Да абедзвюх галінаў я стаўлюся сур'ёзна. Зрэдку на аснове кінамузыкі з'яўляюцца творы — мая Першая сімфонія напісана на музычным матэрыяле дакументальнага фільма "Францыск — сын Скарыны" Станіслава Гайдука. А хары з фільма "Тутэйшыя" леглі ў аснову кантаты "Забыты Богам край". Бывае і наадварот: у фільм уключаеш тэмы з гатовага твора — так часта працаваў, напрыклад, Шнітке.

У цэлым праца кампазітара ў кіно няўдзячная — нібыта ты ёсць, а нібыта няма. Аб кампазітары і музыцы ўспамінаюць толькі на стадыі агучвання фільма. І ўсё ж мяне зваблівае гэты від творчасці, дзе важна не аплата, а тое, што атрымліваеш ад дачыненняў з новымі людзьмі, з калегамі-кінематаграфістамі.

**Размову вяла**
**Антаніна КАРПІЛАВА**

КАРАНІ

# ЛЯ БАЦЬКОЎСКАГА ПАРОГА

У МІНУЛЫМ у беларускай вёсцы, калі выпраўляліся з хаты на хрышчэнне нованароджанага, ля парога клалі розныя прадметы: пілу, сякеру, малаток, кнігу і інш. Цераз гэтыя рэчы кумы пераступалі, выходзячы з дзіцем з хаты. Гэты абрад павінен быў паспрыяць, каб нованароджаны, калі дасягне сталага ўзросту, памайстэрску валодаў названымі прадметамі. Калі ж варочаліся з царквы пасля хрэсьбін, немаўлятку бацька клаў на некалькі хвілін на парозе, што звалася асвяціць дзіця цераз парог. Так адзначаўся ўваход у хату новага члена сям'і — бацька, узяўшы дзіця з парога, як бы прызнаваў яго сваім.

Апісаныя абрады сведчаць, наколькі важным у народным уяўленні ў час пэўных вызначальных падзей у жыцці сям'і быў працэс пераступання цераз парог, праход у дзверы. Гэта звязана з тым, што дзверы і парог былі занадта адказнай часткай хаты, забяспечваючы зносіны жытла са знешнім светам. Менавіта таму пераступанне цераз парог у некаторых абрадах заўсёды звязана з асаблівымі рытуальнымі дзеяннямі. Акрамя абраду хрэсьбін, гэта яскрава праяўлялася, напрыклад, у час вяселля і комплексу абрадаў, што яму папярэднічалі. Так, яшчэ ў час сватання сват, пераступіўшы парог, нізка кланяўся і даваў пахвалёнага, потым жа ў сваёй прамове называў парог "залатым". Калі ж у дзень вяселля малады прыязджаў у хату нявесты, яе матка са свечкай станавілася на парозе хаты і, падняўшы талерку з хлебам і соллю ўверх, трымала яе да таго часу, пакуль пад ёю цераз парог не праходзілі ўсе прыехаўшыя. Важнасць пераступання цераз парог падкрэслівалася і калі ў час вяселля неслі каравай у хату: скрыпач пераставаў граць, а сват, на момант спыніўшыся на парозе, гучна ўслаўляў Бога. У вясельнай абраднасці мела значэнне таксама як дзеянне — адчыняць і зачыняць дзверы. Калі дзяўчына хадзіла запрашаць на заручыны, яна як пры ўваходзе, так і пры выхадзе дзвярэй не зачыняла: паводле павер'я, такім чынам яна зачыніла б дзверы перад сватамі, г.зн. не выйшла б замуж. Таксама і на вяселлі дрэннай прыкметай для маладой лічылася тое, што за ёй, калі яна ўвойдзе ў хату, адразу зачыняць дзверы. У такім выпадку казалі, што "ўсю роскаш перад ёю зачыняюць", г.зн. што ў яе не будзе ў жыцці дабрабыту.

З дзвярамі, з уваходам у хату былі звязаны і іншыя абрады, якія праводзілі ў мінулым у беларускай вёсцы. Напрыклад, у некаторых раёнах на веснавыя дзяды ў час памінальнай вячэры ў дзвярах ставілася барана — сімвал земляробчай працы. Гэтым хацелі паказаць, што продкі, у гонар якіх ладзілася свята, былі працавітыя сяляне, добрыя гаспадары, у той жа час пастаўленая каля ўвахода ў жытло сельскагаспадарчая прылада павінна была паспрыяць уваходжанню ў хату дабрабыту і шчасця.

Такім чынам, дзверы, уваход у жытло мелі ў даўніну пэўнае сакральнае, рытуальнае значэнне. І цікава, што ў час Купалля, калі правіламі гэтага свята наогул дазвалялася пэўнае рытуальнае разняволенне і свабода, гэта адбівалася і на адносінах да дзвярэй — менавіта яны падвяргаліся розным свавольным дзеянням: напрыклад, хлопцы зносілі дзверы якой-небудзь хаты ці падпіралі ўваход у дом калодай, так што ніхто не мог выйсці.

Трэба сказаць, што ва ўяўленні людзей мінулага ўваход у хату, парог хоць і прызнаваліся элементамі жытла, але ў пэўнай ступені разглядаліся і як нешта, што належыць знешняму свету. Таму знаходжанне ля парога, за парогам сімвалічна абазначала адчужэнне ад свету хаты, ад свету дадзенага жытла. Так, свахі, якія прыйшлі ў дом нявесты, пакуль не дагаворацца з бацькамі маладой, не мелі права адысці ад парога. У час жа прыезду ў дом сватоў з жаніхом, калі яны ўжо праходзілі ў хату, малады павінен быў стаяць ля парога, бо ён яшчэ не быў прыняты як суджаны. Цікавыя ў гэтым сэнсе і такія словы беларускай народнай песні:

Нялюбай нявестцы —
На пароге сесці, —

маўляў, яна тут чужая, няма ёй месца ў хаце.

Аднак трэба сказаць, што хоць парог і лічыўся нечым амаль што прыналежным знешняму ў адносінах да жытла свету, для людзей, якія па нейкіх прычынах пакідалі сваю хату, менавіта ён рабіўся пэўным сімвалам роднага дома. Нездарма ў адной з беларускіх вясельных песень пяецца:

Пажагнаешся ўжо назаўсёды
З ойчэнька парогамі.

Тое, што праз дзверы ажыццяўляецца сувязь унутранай прасторы хаты са знешнім светам, рабіла іх ва ўяўленні людзей мінулага таксама і небяспечным пунктам, праз які ў жытло маглі пранікнуць варожыя знешнія сілы. З гэтым звязана тое, што каля ўвахода ў хату, на парозе рабіліся ўсялякія засцерагальныя абрадавыя дзеянні, якія павінны былі аберагчы жытла ад розных сурокаў. У першую чаргу трэба адзначыць, што як ахоўны знак над дзвярыма ці да парога часта прыбівалі падкову. Вешалі над парогам таксама розныя вострыя прадметы: сярпы, іголкі і інш., — каб не дапусціць у хату "нячыстую сілу", бо думалі, што аб гэтыя рэчы ведзьма, калі будзе ісці ў дзверы, павінна параніцца. Каб засцерагчы ад вядзьмарак уваход у хату, дзверы таксама часам абкладвалі крапівой, каб нязваная госця ёю апяклася. А вось каб пазбавіцца ад Мары — жахлівай істоты, што, пранікаючы ў дом, шкодзіла гаспадарам, — клалі на парозе накрыж мятлу і сякеру. Гаварылі таксама, што калі чарціха ў каго-небудзь украдзе дзіця і падменіць яго на сваё, то трэба пакласці малога нячысціка на парозе і біць дубцом, пакуль чарціха не прыйдзе забраць сваё дзіця і не верне чалавечае. Трэба яшчэ сказаць, што на Тройцу (Сёмуху) ля парога хаты ставілі ссечаныя маладыя дрэўцы, што павінна было паспрыяць шчасцю сям'і, аберагчы ад злых сіл.



*Наборныя дзверы жылых дамоў. XX ст.*



*Дзверы жылых дамоў. XIX —XX стст.*

Засцерагальную ролю мелі таксама дэкаратыўныя элементы аздаблення ўвахода ў хату. Часцей за ўсё яны ўводзіліся ў форму дэталяў металічных запораў і навескі дзвярэй. Так, рабілі ручкі-клямкі са стылізаванымі выявамі галоў коней ці птушак, якія здаўна ў народнай міфалогіі мелі засцерагальнае значэнне. Рабілі скобы з выявамі вужа, які ў старажытнасці меў сакральнае значэнне. Асабліва ж пашыраны быў каваны раслінны дэкор, які ў даўніну таксама разглядаўся як засцерагальны.

Тое, што ўваход у жыллё беларускімі сялянамі ўяўляўся пунктам нябяспечным, які патрабуе асобай увагі, сведчаць і розныя забабоны, што былі звязаны з парогам. Так, лічылася, што кінутыя на парозе рэчы нельга падымаць, бо яны могуць быць заваражаныя. Таксама гаварылі, што дамавік не любіць, калі каля парога ляжыць які-небудзь прадмет, а тым больш жывая істота — кошка, сабака, — бо гэта перашкаджае яму пераходзіць з хаты ў сені і назад. Думалі таксама, што калі хворы памірае, то анёл сядзіць каля яго ложка, а д'ябал знаходзіцца ля парога, чакаючы, калі божы пасланец адвернецца і можна будзе схапіць душу нябожчыка.

Незвычайная роля парога ў жытле праяўлялася і ў тым, што ў гэтым месцы хаты праводзілі розныя дзеянні варажбы. Так, гаспадары, якія чакалі ацёлу каровы, глядзелі, хто першы на Вялікдзень пераступіць парог хаты: калі гэта будзе жанчына, то народзіцца цёлачка, калі ж мужчына, то бычок. А вось на Андрэя Первазваннага дзяўчына клала на парозе тры галушкі, надаючы ім імёны знаёмых хлопцаў, потым клікала ката ці сабаку — з чыім імем галушка будзе з'едзена першай, пакажа, хто будзе жаніхом. Быў і такі варыянт гэтага абраду варажбы: збіралася некалькі дзяўчат, кожная паасобку пякла булачку, потым печыва клалі ў радок на парозе — чыю булачку сабака схопіць раней, тая з дзяўчат першай пойдзе замуж. Тое, што такая варажба, звязаная з замужжам, праводзілася менавіта на парозе, не выпадкова, бо жаніх павінен быў прыйсці ў хату аднекуль са знешняга свету, сувязь з якім адбывалася цераз дзверы, цераз парог.

З цягам часу парог, уваход у хату страцілі сваё былое сакральнае значэнне. Забыліся людзі пра старажытныя абрады, якія ў мінулым адбываліся на парозе дома, наўрад хто сёння баіцца пранікнення ў хату праз дзверы "нячыстай сілы". Але паняцце "бацькоўскі парог" як увасабленне ўвахода ў родную хату засталося, і кожнага, хто варочаецца здалёку ў бацькоўскую хату, на парозе каля дзвярэй ахоплівае вялікае хваляванне, хваляванне сустрэчы са светам роднага жытла.

**Якаў ЛЕНСУ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**



*Дэкаратыўныя дзвярныя петлі. Канец XIX ст.*

# ШЛЯХ ДА СВЯТЫНІ

2 ліпеня ў будслаўскай Базіліцы Мінорыс адбыўся вялікі каталіцкі фэст. Як вядома, у гэтым касцёле знаходзіцца найбольш шанаваны на Беларусі абраз Маці Божай, вядомы яшчэ з глыбокай старажытнасці, таму будслаўскі фэст з'яўляецца найбуйнейшым у нашай краіне.

Будслаў — невялікае мястэчка на Мядзельшчыне з некалькімі сотнямі хат і звыклым наборам культурных і сацыяльных установ — клуб, дзе па выхадных надараюцца танцы і бойкі, некалькі крам... У звыклы дзень тут пануе ўсеахопная цішыня і спакой. Але раз на год цёплым ліпеньскім днём местачковыя вулачкі запаўняюцца натоўпамі людзей, што з'язджаюцца сюды з усіх куткоў Беларусі, дый і не толькі яе; паўсюль чуваць узнёслыя каталіцкія спевы і малітвы. Гэта значыць — прыйшло Свята.

Будслаўскі фэст — ці не адзінае, што засталося нам ад той, даўняй Беларусі, якой цяпер нам так не стае. Нацыянальная традыцыя, народны дух выяўляецца тут не толькі ўласна ў прадмеце веры і сродках, дарэчы, досыць своеасаблівых, якімі людзі ўзносяць яму пашану, а нават знешне. Так, калісь касцёл быў цэнтрам не толькі рэлігійнага, але і грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця ў каталіцкім рэгіёне — ён звычайна месціўся на цэнтральным пляцы мястэчка, дзе збіраліся людзі, праходзілі кірмашы і наогул амаль увесь гандаль. І я быў вельмі здзіўлены, калі на рэлігійнае свята апроч вернікаў з'ехаліся і гандляры адкуль толькі магчыма і ўчынілі на ўзбочыне прыкасцельнага тракта дастаткова вялікі кірмаш, а тамтэйшая міліцыя дзейнічала ўзгоднена з пробашчам касцёла. Гэта сведчыць пра аўтарытэт Касцёла на Будслаўшчыне, з якім мусяць пагадзіцца нават тамтэйшыя ўлады.

Здзівіла мяне таксама і колькасць моладзі, што прысутнічала на фэсце. Мы прызвычаіліся думаць, што рэлігія — справа старых, тое, што паступова адмірае само сабой, як сцвярджалі калісь нашы правадыры. Але Каталіцкі Касцёл, які мае тысячагадовую гісторыю, значна больш трывалы не толькі за камуністычную ідэю, і час штораз гэта падкрэслівае. Моладзь зноў і зноў цягнецца да Бога, прыходзіць у храм. Сёлета шмат з якіх гарадоў і мястэчак былі арганізаваныя пешыя пілігрымкі, і колькасць іх удзельнікаў уражвае. Так, толькі з менскай парафіі св. Тройцы да Будслава рушыла каля 50 чалавек. Моладзь не толькі больш імпэтная за старых, але і больш адукаваная і разняволеная. Наўрад ці, я думаю, хто са старых нават у гады сваёй маладосці мог наважыцца ўчыніць каля касцёла танцы. Танцы, праўда, былі хрысціянскія, але гэта не рабіла іх менш вясёлымі за лявоніху ці той жа рэп.

Але, натуральна, такія "мадэрновыя" забавы не пераважалі ў праграме фэсту. Найважнейшым мерапрыемствам з'яўлялася, безумоўна, Святая імша, адпраўленая ўночы Апостальскім нунцыем для каталікоў-беларусаў кардыналам Аўгустынам Маркета, якой папярэднічаў крыжовы ход са свечкамі і песнямі вакол касцёла. У традыцыі свята ўвайшло адпраўляць гэтую імшу па-беларуску, але паколькі Яго Эксцэленцыя па нацыянальнасці італьянец, то на гэты раз яна была адпраўленая на лацінe, з беларускімі ўстаўкамі і спевамі. Увогуле, знаходзячыся на гэтым свяце, можна было знайсці шмат падстаў, каб запярэчыць амаль агульнапрынятаму сцверджанню, што касцёл змагаецца з беларускай мовай і пашырае пальшчызну. Нягледзячы на тое, што большасць ксяндзоў на нашых землях па нацыянальнасці палякі, яны ставяцца да беларускай мовы значна лепш, ва ўсялякім выпадку, за "беларускія" ўлады шмат якіх мясцовасцяў і нават часам змагаюцца з тым, што па традыцыі большасць вернікаў успрымае набажэнства выключна па-польску.

Спевы і малітвы працягваліся ў касцёле ўсю ноч. На наступны дзень фэст быў скончаны сустрэчай з працэсіяй нунцыя і ўрачыстай імшой. З пэўнай доляй шкадавання вернікі раз'язджаліся па сваіх мястэчках, несучы ў сэрцах нязгасны Божы агонь. Да сустрэчы налета.

**Г.С.**

ПОСТАЦІ

# МАГНАТ У ПЛАШЧЫ ПІЛІГРЫМА

У ВЕРАСНІ 1994 года ў Нясвіжы праходзіў Міжнародны сімпозіум "Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная і мастацкая каштоўнасць", прысвечаны праблемам захавання гістарычнай і мастацкай спадчыны горада. І гэта не выпадкова.

Гісторыя Нясвіжа цесна звязана з гісторыяй роду Радзівілаў. Менавіта тут пры падтрымцы Мікалая Радзівіла Чорнага была арганізавана друкарня, з якой выйшлі першыя друкаваныя кірылічныя выданні на Беларусі — творы Сымона Буднага. Складанне Нясвіжа як буйнога цэнтра еўрапейскай культуры на беларускіх землях набыло асаблівы размах пры Мікалаі Крыштафе Радзівіле, званым Сіроткай (1549 — 1616) — адной з найяскравых постацей Вялікага княства Літоўскага і Польшчы.

Мікалай Крыштаф — выдатны прадстаўнік свайго роду, знакамітага ва ўсіх сферах духоўнага жыцця. Ён належаў да таго пакалення, чый інтэлект сфармаваўся ва ўмовах культурных дасягненняў эпохі Адраджэння, пашыраных сувязей і кантактаў з Захадам. Згодна з рэнесансавымі павевамі таго часу, магнацкая моладзь вучылася ў замежных універсітэтах, падарожнічала па Еўропе, здзяйсняла паломніцтвы да святых месцаў, не толькі праяўляла цікавасць да мастацтва, але тварыла і сама.

Мікалай Крыштаф нарадзіўся ў магнацкай сям'і, блізкай да каралеўскага двара. Расказваюць, што прозвішча "Сіротка" ён атрымаў ад самога Жыгімонта Аўгуста, які ўбачыў у адным з пакояў каралеўскага палаца немаўля, якое жаласна плакала, а яго ныя бацькі тым часам бавіліся на "дворскіх гулянках". Бацькі Сіроткі — віленскі ваявода Радзівіл Чорны, быў галоўным пратэктарам Рэфармацыі ў княстве, яго мецэнацкая дзейнасць адыграла вялікую ролю ў станаўленні кнігадрукавання на беларускіх землях. Маці — Альжбета — была дачкой аднаго з буйнейшых польскіх мецэнатаў, каронната гетмана Крыштафа Шыдлавецкага. У сям'і ваяводы гадавалася восем дзяцей, Сіротка быў старэйшым.

Першыя 14 гадоў свайго жыцця навучаўся дома, у асяроддзі вядомых пратэстанцкіх вучоных. З 1563 года працягваў адукацыю за мяжой — у Страсбургу, Цюбінгене. Па даручэнні Радзівіла Чорнага наведаў у Цюрыху вядомага пратэстанцкага тэолага Г.Булінгера. Вестка аб смерці бацькі прымусіла яго вярнуцца на радзіму. Над непаўналетнім Сіроткай узяў апеку стрыечны бацькаў брат — Радзівіл Руды. У канцы 1565 года, згодна з апошняй воляй Радзівіла Чорнага, юнак выправіўся ў вандраванне па краінах Еўропы.

СІРОТКА быў, бадай, самым буйным магнатам ВКЛ: паводле попісу войска 1567 года, малады князь выстаўляў 539 коннікаў "пагусарску" і 386 пешых драбаў. Як большасць беларуска-літоўскіх магнатаў, непрыязна ставіўся да дзяржаўнай уніі Польшчы і ВКЛ, але пад пагрозай канфіскацыі сваіх маёнткаў, якія знаходзіліся на тэрыторыях, далучаных да Кароны, быў вымушаны падпісаць акт Люблінскай уніі 1569 года. Аднак Сіротка ўсведамляў дзяржаўную адасобленасць ВКЛ і ў лісце да свайго брата, кракаўскага біскупа і кардынала Юрыя Радзівіла, выказваў упэўненасць, што Юрый называе сябе ліцвінам, а не палякам...




Нягледзячы на слабое здароўе, Мікалай Крыштаф браў актыўны ўдзел у палітычным жыцці: займаў уплывовыя пасады вялікага літоўскага маршалка, троцкага, пазней віленскага ваяводы, ездзіў на сеймы, уваходзіў у склад пасольства ў Парыж для ўручэння дыплома на каралеўскую годнасць Генрыху Валуа ў 1573 годзе. А калі апошні ўцякаў з Рэчы Паспалітай, удзельнічаў у пагоні за ім.

У 70 — пачатку 80-х гадоў XVI стагоддзя Сіротка вызначыўся ў ваенных справах пад Улай, Полацкам, Псковам. Падчас аблогі Полацка ўвесну 1579 года быў кантужаны ў галаву, гэта яшчэ больш пагоршыла яго здароўе. Ён некалькі разоў выязджаў за мяжу (Германію, Італію) для лячэння. І ці не менавіта хваравітасць Сіроткі была адной з прычын паглыблення яго набожнасці? Ён быў прававерным католікам, актыўна падтрымліваў езуітаў, выступаў супраць рэлігійных вольнасцей для пратэстантаў. Аўтарытэт бацькі-пратэстанта нейкі час стрымліваў дзеянні Сіроткі, але з 1574 года ён актыўна пачаў у сваіх уладаннях (Нясвіжы, Клецку, Белай) замяняць рэфармацыйныя цэрквы на каталіцкія касцёлы. Называў пратэстантаў "сатанінскімі слугамі", а іх рэлігію — "д'ябальскай самалоўкай". Пад уплывам Сіроткі ва ўлонне каталіцкай царквы перайшлі яго малодшыя браты Станіслаў, Альбрыхт і Юрый. Мікалай Крыштаф прыкладаў шмат намаганняў, каб Юрый прыняў духоўны сан і стаў віленскім, а потым кракаўскім біскупам, кардыналам.



У верасні 1582 года ён прыступае да здзяйснення сваёй запаветнай мары — паломніцтва ў Святую Зямлю. Цераз Рым, Венецыю, далей морам — да берагоў Сірыі. Адтуль, пешшу, накіроўваецца ў Ерусалім. Два тыдні Сіротка правёў у Палесціне: наведаў святыя для кожнага хрысціяніна месцы, ахвяраваў каштоўныя рэчы і грошы касцёлам у Ерусаліме і Віфлееме. Канвентам ерусалімскіх бернардзінаў ён быў абвешчаны рыцарам Гробу Гасподняга і пракуратарам Святой Зямлі. Пасля Ерусаліма Сіротка накіраваўся ў Егіпет, наведаў Каір, Мемфіс, піраміды ў Гізах, Александрыю. Вяртанне назад было цяжкім і небяспечным: у пілігрымскім плашчы Радзівіл спаў на голай зямлі, яму пагражала небяспека з боку туркаў і арабаў. Па дарозе да Італіі быў ушчэнт абрабаваны разбойнікамі. І толькі амаль праз два гады ён вяртаецца ў Нясвіж.



Каб ажыццявіць такое незвычайнае нават для нашага часу падарожжа, акрамя шчырай набожнасці трэба было мець пэўную адвагу. А яна ў князя была! І яшчэ — у час сваёй вандроўкі Сіротка не расставаўся з Біблiяй.

Неўзабаве пасля вяртання Радзівіл ажаніўся з кальвіністкай Альжбетай Вішнявецкай, дачкой валынскага ваяводы. І, безумоўна, пераканаў яе прыняць каталіцкую веру. Ды не толькі яе, але і цешчу — заўзятую пратэстантку.

У 1586 годзе Сіротка разам з братамі ўтварае тры ардынацыі. Мікалай Крыштаф стаў першым Нясвіжскім ардынатам, Станіслаў — алыцкім, Альбрыхт — клецкім. Згодна з актам ардынацыі, усе галоўныя фамільныя ўладанні павінны былі назаўсёды заставацца ўласнасцю роду Радзівілаў і перадавацца ў спадчыну па старшынству толькі па мужчынскай лініі. Такія ардынацыі былі аднымі з першых у Рэчы Паспалітай і адлюстроўвалі заходнееўрапейскія павевы ў гаспадаранні.

Шмат сродкаў ахвяраваў Сіротка на будаўніцтва, рэстаўрацыю і ўтрыманне культавых устаноў у сваіх шматлікіх уладаннях (Міры, Свержані, Чарнаўчыцах і інш.). У яго мецэнацтве спалучаліся палкая набожнасць і глыбокая цікавасць да мастацтва. Асаблівую ўвагу надаваў Нясвіжу як сваёй галоўнай рэзідэнцыі. Ён запрашаў у горад добрых замежных рамеснікаў і мастакоў, даваў ільготы мясцовым майстрам і купцам. Па яго най просьбе ў 1586 годзе Стэфан Баторый, кароль польскі і вялікі князь Літоўскі, выдаў Нясвіжу прывілей на магдэбургскае права.

Пэўныя прывілеі атрымалі ад Сіроткі мясцовыя яўрэі, пры ім пачалося фармаванне ў Нясвіжы аднаго з цэнтраў яўрэйскай культуры. Сіротка арганізаваў у Нясвіжы ліцейную майстэрню, у якой адліваліся гарматы, упрыгожаныя рэнесансавымі арнаментамі і гербамі Радзівілаў.

Тым жа часам у Нясвіжы былі пабудаваны новы мураваны замак, заснавана адораная багатым фундушам езуіцкая калегія, з'явіліся касцёлы і кляштары бернардзінцаў і бенедыктынак (дарэчы, першы ў ВКЛ жаночы каталіцкі кляштар). Сіротка запрашае ў Нясвіж італьянскага архітэктара Дж.М.Бернардоні. Гэта па яго ным праекце быў пабудаваны езуіцкі касцёл Божага цела (1587 — 1593) — першы ў Рэчы Паспалітай і адзін з першых у Еўропе храмаў у стылі ранняга барока. Па кампазіцыі і знешнім выглядзе храм нагадваў узведзены ў пачатку 80-х гадоў XVI стагоддзя касцёл Іль-Джэзу ў Рыме. У нясвіжскім касцёле знаходзілася родавая пахавальня Радзівілаў.

Бернардоні ўдзельнічаў таксама ў праектаванні і будоўлі езуіцкай калегіі і княжацкага абарончага замка з бастыёнамі і земляным валам, у якім былі выкарыстаны дасягненні тагачаснай італьянскай фартыфікацыі. У залах замка знаходзілася багатая галерэя радзівілаўскіх партрэтаў, каштоўная бібліятэка, якая пры Сіротцы яшчэ болей папоўнілася. Як адзначаў пісьменнік пачатку XVII стагоддзя Сымон Старавольскі, Радзівіл з каралеўскім пыхам будаваў манастыры, касцёлы, замкі, пракладваў дарогі і ў сярэдзіне Сарматы стварыў сапраўдную Італію.

Па ініцыятыве і за кошт Сіроткі была створана лепшая на той час у Еўропе карта ВКЛ (так званая радзівілаўская) і выдадзена за мяжой у 1603 і 1623 гадах. Адзін са стваральнікаў карты — вядомы гравёр Томаш Макоўскі.

Радзівіл аказваў фінансавую падтрымку езуіцкаму кнігадрукаванню, выданню кніг ідэолагаў контррэфармацыі (у прыватнасці твораў П.Скаргі). І яму самому прысвячаліся мастацкія, навуковыя, тэалагічныя творы, панегірыкі. Вядома каля 30 такіх выданняў-прысвячэнняў. Сярод іх — твор віленскага суддзі Яна Пратасовіча "Ялмужнік" (падаўца міласціны), у якім услаўляецца дабрачыннасць як адна з хрысціянскіх дабрадзейнасцей. Сучаснікі сведчаць, што Сіротка быў шчодрым дабрадзеем, адорваў бедных людзей: сялян, жабракоў, сірот, удоў, пілігрымаў.

САМ Радзівіл вызначаўся прыкметным літаратурным талентам. Яго нататкі, зробленыя ў часе паломніцтва, пазней былі апрацаваны і выданы друкам ("Перэгрынацыя, або Паломніцтва князя М.К.Радзівіла ў Святую Зямлю"). Гэты твор (на сённяя адзін з каштоўных дарожных дзённікаў XVI стагоддзя) здабыў прызнанне сучаснікаў, неаднаразова перавыдаваўся на лацінскай і польскай мовах, быў перакладзены ўжо ў пачатку XVII стагоддзя на нямецкую, а ў XIX стагоддзі — на расійскую мовы. Стыль прыватных лістоў Сіроткі выразны, сакавіты:"... вялікі сакрэт караля ўжо ледзь толькі не на рынку таўчэцца", "лянівяму Бог дагадзіў, што пан Н. прыехаў".

Паўсядзённае жыццё Сіроткі вызначалася сціпласцю. Ён і сам адзначаў:"побыт сапраўды земянскі ў мяне дома, не панскі", любіў выказваць знешнюю пакору, называць сябе "прастаком", "вялікім дудкам"(дурнем), але разам з тым не забываў пра высокі статус свайго роду:"Бо Радзівілам буду, хоць ніякай пасады мець не буду, і досыць мне таго". Вось як апісвае сучаснік знешні выгляд князя ў пачатку XVII стагоддзя: "нізкага росту, твар худы, а вочы вельмі жвавыя, бародка малая і сівая, вусы падкручаны. Мае такое слабое здароўе, што кожны дзень трэба падтрымліваць арганізм".

Памёр Радзівіл у Нясвіжы — 28 лютага 1616 года. Згодна з тэстаментам, быў пахаваны "без помпы", з выключнай прастатой у езуіцкім касцёле, у пілігрымскім адзенні, якое было на ім у часе паломніцтва. Гэта быў бліскуча адукаваны, эрудзіраваны, не без таленту чалавек. У радзівілаўскай прамове было адзначана, што сваёй любоўю да кніг, мудрасцю ў навуках князь перасягнуў іспанскага караля Альфонса, веданнем замежных моў параўнаўся з Мітрыдатам.

Апошнім прытулкам Мікалая Крыштафа Радзівіла стаў горад, для якога ён так многа зрабіў, надаў велічы. Ён і нашчадкам сваім наказваў, каб "вольнасці месцу Нясвіжскаму", наданыя каралямі і Радзівіламі, не парушалі і руплілся аб паляпшэнні роднага гнязда.

**Людміла ІВАНОВА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута гісторыі АН Беларусі**

*На здымках: 1. Князь Мікалай Крыштаф Радзівіл "Сіротка". 2. Год 1995-ы. На радзіме магнатаў. 3. Нясвіж каля 1604 года. Малюнак Томаша Макоўскага.*

# СТРАТА

## БАРЫС САЧАНКА



Вялікую страту панесла беларуская літаратура. 5 ліпеня 1995 года раптоўна памёр таленавіты пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, грамадскі дзеяч Барыс Іванавіч Сачанка. Цяжка змірыцца з думкай, што не стала цудоўнага, поўнага творчых сіл і жыццёвай энергіі чалавека, які да апошняга дыхання аддаваў сябе вялікай справе нацыянальнага Адраджэння, роднай літаратуры.

Барыс Іванавіч Сачанка нарадзіўся 15 мая 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і рабочага. У сямігадовым узросце разам з бацькамі вывезены ў Германію. Пасля вяртання на Радзіму скончыў хойніцкую сярэднюю школу, а затым Беларускі дзяржаўны універсітэт, спалучаючы вучобу з працай у часопісе "Вожык". Шмат гадоў працаваў у аддзеле прозы часопіса "Полымя". З 1976 па 1986 год сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Апошні час актыўна займаўся выдавецкай дзейнасцю, працуючы спачатку загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Мастацкая літаратура", а потым галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя".

Першае апавяданне Барыса Сачанкі з'явілася ў друку ў 1956 годзе ў часопісе "Маладосць". Яркая, самабытная проза маладога аўтара адразу звярнула на сябе ўвагу прыхільнага чытача і крытыкі. Увесь наступны шлях пісьменніка быў пазначаны высокай творчай актыўнасцю, разнастайнасцю тэматыкі. Ён пісаў пра мінулую вайну, вяскоўцаў, пра сваё роднае Палессе таленавіта, шчыра, пранікнёна. Першыя зборнікі прозы "Дарога ішла праз лес", "Барвы ранняй восені", "Зямля маіх продкаў", "Пакуль не развіднела", "Апошнія і першыя" ўбачылі свет у 60-я гады. Яшчэ больш адметнымі былі наступныя творы: "Дарогі" і "Аксана" (1971), "Памяць" (1973), "Тры аповесці" (1976), "Ваўчыца з Чортавай Ямы" (1978), "Горкая радасць вяртання" (1987), "Вечны кругазварот" і "Родны кут" (1989), раман "Чужое неба" (1975), трылогія "Вялікі лес" (1980, 1982, 1984). Плённа працаваў Барыс Сачанка ў галіне дзіцячай літаратуры, сатыры і гумару, крытыкі, шмат перакладаў з моваў іншых народаў. Значнымі былі яго літаратурныя даследаванні.

Шмат жыццёвай энергіі аддаваў ён грамадскай дзейнасці, выбіраўся дэпутатам раённага і гарадскога Саветаў, з'яўляўся членам многіх грамадскіх фарміраванняў, рэдкалегій мастацкіх выданняў, удзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

За вялікі ўклад у нацыянальную літаратуру, актыўную грамадскую дзейнасць Барыс Сачанка ўзнагароджаны двума ордэнамі "Знак Пашаны", медалямі Францішка Скарыны, ушанаваны літаратурнай прэміяй імя І.Мележа.

Барыс Іванавіч Сачанка назаўсёды застанецца ў нашай памяці як сумленны, зычлівы чалавек, старанны, рупны працаўнік, таленавіты летапісец нашага жыцця.

Ён моцна любіў сваю родную Беларусь і аддаў ёй увесь свой талент.

**М.Чыгір, Л.Сініцын, У.Гаркун, У.Русакевіч, А.Бутэвіч, В.Стражаў, У.Ярмошын, Р.Барадулін, Я.Брыль, В.Быкаў, Н.Гілевіч, М.Танк, І.Чыгрынаў, І.Шамякін, В.Адамчык, С.Андраюк, В.Блакіт, Г.Бураўкін, А.Вярцінскі, Р.Гарэцкі, М.Гіль, Г.Далідовіч, А.Дудараў, А.Жалязоўскі, А.Жук, С.Законнікаў, В.Зуёнак, В.Каваленка, В.Казько, А.Кудравец, М.Карловіч, У.Ліпскі, А.Лойка, М.Лужанін, В.Лукша, П.Макаль, Я.Малашэвіч, А.Мальдзіс, А.Масарэнка, М.Мятліцкі, І.Навуменка, У.Някляеў, У.Паўлаў, А.Пісьмянкоў, І.Пташнікаў, Я.Саламевіч, С.Самуэль, Я.Сіпакоў, В.Супрунчук, В.Ткачоў, І.Хаўратовіч, А.Шабалін.**

**Рэдакцыя газеты "Культура" смуткуе з прычыны заўчаснай смерці таленавітага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Барыса Іванавіча САЧАНКІ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## СЛОВЫ ЖАЛОБЫ І СМУТКУ

Законы прыроды няўмольныя. Але прымірыцца з імі немагчыма, калі чалавек памірае заўчасна, у росквіце сіл.

Я без малога 50 гадоў у Саюзе пісьменнікаў, каля трыццаці гадоў быў у кіраўніцтве і развітаўся, можа, з сотняй сваіх калег і сяброў. Але незалежна ад рангу адыход любога шчырага працаўніка пакідаў адчуванне збяднення нашага баявога палка, пустату ў яго шэрагах. Прыходзілі маладыя, станавіліся ў строй, але пустату не запаўнялі. Бо ніхто не можа замяніць мастака! Ён непаўторны.

Раптоўная смерць Барыса Сачанкі — незалечаная рана сям'і, боль блізкіх і сяброў і невымерная страта для беларускай літаратуры, якая і без фізічных смерцяў творцаў яе перажывае калапс.

Мне асабліва балюча. Барыс Іванавіч — мой зямляк, вучань і сябра. Я шчыра любіў гэтага чалавека і пісьменніка. Ён радаваў сваёй творчасцю. Празаік шырокага дыяпазону, дальняга бою і аптычнай меткасці. Усё, што ён пісаў, прыцягвала ўвагу ў калег яго, чытачоў, крытыкаў: апавяданні і аповесці, трылогія раманаў, нарысы, эсэ, крытычныя артыкулы, даследаванні. Барыс Іванавіч быў самы актыўны шукальнік забытых пісьменнікаў, тых, каго лёс занёс на край свету, і згубленых твораў, а іх нямала нават у класікаў нашай літаратуры. У некралогу пералічаны яго кнігі. Але не магу не нагадаць эпічныя творы — "Чужое неба", трылогію "Вялікі лес", незвычайную па лірызму і любові да сваіх землякоў кнігу "Зямля маіх продкаў".

Барыс Іванавіч быў змагар. А кожны змагар — пакутнік, бо гэта чалавек, у якога баліць сэрца за людзей, за справу, а ў пісьменніка яно асабліва баліць, бо яго справа, яго клопат — гэта жыццё ва ўсіх яго праявах, высокіх і нізкіх.

Хлопчыку Барыску абпаліла сэрца вайна — палон. Палон дзіцяці! Што можа быць больш пачварнае, антычалавечнае, як узяць у палон дзіця! Вядомаму пісьменніку паліла сэрца яго сумленне, бо не мог ён быць абыякавы да збяднення народа, да збяднення яго літаратуры, культуры.

Калі я тры гады назад адыходзіў на пенсію з пасады галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", то назваў сваім пераемнікам Барыса Сачанку. І неўзабаве ён заняў гэтую пасаду. Працаваць яму было значна цяжэй, чым мне: рынак дыктаваў жорсткія ўмовы. Нядоўга давялося Барысу Іванавічу ўзначальваць пачэсны ўчастак нацыянальнай культуры.Але як многа пад яго кіраўніцтвам энцыклапедысты зрабілі!

Памёр Барыс Іванавіч як салдат, на баявым пасту ў сваім рабочым кабінеце.

Вельмі балюча развітвацца з дарагім паплечнікам, таварышам, сябрам. Няхай жа вечна жыве памяць пра выдатнага чалавека, мастака. Няхай жывуць, дарагі Барыс Іванавіч, кнігі, твая выдавецкая праца!

Бывай, сябра! Няхай пухам табе будзе родная зямля!

**Іван ШАМЯКІН**

## ПРА КАЛЕГУ І СЯБРА

Памёр Барыс Сачанка. Памёр раптоўна. На службе. За сваім рабочым сталом галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя". Пасля аж пяць гадзін ляжаў за гэтым жа сталом, на падлозе . Яго цела не забіралі ў трупярню. І пасля смерці — ні ўвагі, ні павагі да чалавека...

Памёр пісьменнік. Найвыдатнейшы прадстаўнік на ніве нацыянальнай культуры, нацыянальнай літаратуры.

Пакаленне сённяшніх шасцідзесяцігадовых, пакаленне дзяцей мінулай вайны так дачасна страціла аднаго з самых яркіх, самых выдатных сваіх прадстаўнікоў. Жахлівыя гады савецкай акупацыі, выгнанне ў Нямеччыну, пасляваенныя часы гнятлівага недаверу і падазронасці балюча і надоўга паранілі дзіцячае і юначае сэрца, увесь час скоўвалі волю і імкненне да высокага і чыстага, чаго так прагнула яго душа. Яны ж, тыя гады, тыя падзеі, вучылі цаніць



кожнае імгненне жыцця, выхоўвалі і мацавалі ўвагу і павагу да чалавека, пазбаўлялі раўнадушша, выклікалі ненатольную прагу ведаў. То была генетычная прага пакалення, у жыцці і творчасці Сачанкі асабліва ярка і багата выяўленая. Гэтая прага ведаў наталялася галоўным чынам праз кнігу. Кніга была нязменным спадарожнікам на ўсім жыццёвым шляху. На кнігу ён маліўся. Яна была для яго абразом. Кнізе служыў баззапаветна — пісаў, ствараў яе, выдаваў, прапагандаваў. А да гэтага — набываў і чытаў, чытаў...

У кнізе браў — кнізе аддаваў.

Менавіта дзякуючы Барысу Сачанку, напрыклад, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" была распрацавана серыя "Скарбы сусветнай літаратуры", выйшлі з друку першыя тамы. Ён першы пачаў знаёміць нашага чытача з літаратурай беларускага замежжа. Вось гэтая якасць "кнізе аддаваць" — веды, талент, жар душы — асабліва выявілася ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя", дзе Сачанка працаваў апошнія два з паловай гады.Ягонай апантанасці, самаадданасці і натхнёнасці можна было толькі здзіўляцца. І захапляцца. Колькі задумаў! Якія планы! Як рэальна і глыбока былі яны распрацаваны. І ва ўсім звышмэта, звышзадача — высокае служэнне Беларусі, духоўнаму яе адраджэнню. Бачылася, што якраз тут, у галіне дзейнасці энцыклапедычнай, талент пісьменніка і рэдактара, агромністыя веды, эрудыцыя, працавітасць змогуць рэалізавацца найбольш поўна. Пачалі паспяхова рэалізоўвацца. Але такое неашчаднае выдаткаванне разумовай энергіі, шчодрага душэўнага цяпла патрабавала адваротнай аддачы — падтрымкі, заахвочвання, разумення добрага слова, нарэшце. Гэта было далёка не заўсёды.

Для здзяйснення высокіх парыванняў патрэбна чыстае паветра, святло ў жыцці. Наш цёмны час не мог даць гэтага.

І сэрца спынілася.

Яшчэ адна зорка дачасна пагасла на беларускім небасхіле.

**Серафім АНДРАЮК**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Алесь КАРЛЮКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адлавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©

Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 5000
Замова 2480
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.